
Дэкамунізацыя → 3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714


Краязнавец з Рыгораўцаў → 10

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 16 (3127) Год LXI | Беласток, 17 красавіка 2016 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# Гаворка — беларуская, нацыянальнасць — ???

Гаворка надалей для некаторых асацыюецца з невуцтвам і сорамам. І гэтае абагульненне найбольш крыўднае. Жыхары Дуброўшчыны штораз больш выразна дэманструюць сваю прывязанасць да моўнай спадчыны сваіх дзядоў. Дзякуючы ёй, акрэсліваюць сваю тоеснасць і робяць крокі ў тым напрамку, каб аддаць ёй належную пашану. Доказам на тое з'яўляецца новая кніга аб дуброўскай гаворцы. Здаецца, што гаворка нанава стала фактарам, дзякуючы якому ідэнтыфікуем сябе з рэгіёнам. Вяртаемся да таго, што мясцовае. Пра мову жыхароў Дуброўшчыны размаўляем з сакольскім віцэ-старастам, дырэктарам Комплексу школ у Дуброве-Беластоцкай ды мовазнаўцам Юрым Беламызым.

**— Услухоўваецеся ў голас жыхароў Дуброўшчыны?**

— Вядома, што чалавек размаўляе, сочыць за тым, што гавораць людзі, чаго чакаюць. Мне здаецца, што толькі тады можам выходзіць насустрач патрабаванням людзей.

**— Таксама Ваша кніга з'яўляецца адказам на турбуючыя пытанні землякоў?**

— Спадзяюся, што якраз іх мая кніга зацікавіць. Сапраўды маю такое ўражанне, што людзі сёння патрабуюць шырэйшых ведаў аб сваёй сям'і, культуры, гісторыі, каб пазнаць сваю ідэнтычнасць. На маю думку сёння менавіта гаворка гэта той фактар, які наймацней ідэнтыфікуе нас з рэгіёнам. Вяртанне да таго, што мясцовае, значыцца найбліжэйшае чалавеку, паскорыла і ўмацавала глабалізацыя, якая дабіраецца да нас з усіх бакоў.

**— Але захоўваеце асцярожнасць пры акрэсленні мясцовай гаворкі «беларускай».**

— У маёй кнізе такі тэзіс будзе пастаўлены.

**— Аднак магчымасць уvядзення беларускай мовы ў дуброўскія школы надалей здаецца быць для Вас нечым абстрактным!**

— Думаю, што так. Немагчыма ўсё адразу зрабіць. Трэба такія рэчы перадумаць, паразмаўляць з людзьмі, даведацца чаго яны хочуць. Магчыма варта было б зрабіць нейкую разведку, каб даведацца, колькі людзей сапраўды было б гэтым зацікаўленых.

**— Але з другога боку, ці гэта не феномен, што мова, якую дзесяцігоддзямі выцяснялі, усё ж такі па сённяшні дзень жыве і становіцца, можа не паўсюднай, але штораз больш папулярнай?**

— Хтосьці сказаў калісьці, што перажывае тое, што сапраўды патрэбнае. Відавочна гутарковая мова была патрэбная, перш за ўсё людзям, якія ў іншы спосаб не былі ў змозе выказваць сваіх думак і выяўляць сябе. Таму яна яшчэ гучыць. Але ці за дваццаць-трыццаць гадоў яна яшчэ будзе існавала? Мова проста зменьваецца, як усё апошняе. У якой форме яна перажывае — я гэтага не ведаю.

**— Скуль увогуле ўзялася патрэба даследаваць родную гаворку, а вынікі працы апублікаваць у кнізе?**

— Я, як чалавек, які займаецца мовай (Юры Беламызы — выпускнік факультэта паланістыкі, абараніў доктарскую дысертацыю ў Варшаўскім універсітэце), проста зацікаўлены гэтай моўнай з'явай нашага рэгіёна. Сам нарадзіўся ў вёсцы, дзе ўсе гаварылі па-простаму. Таксама маю такую свядомасць, што за некалькі гадоў нашай мовы будзе яшчэ менш чуваць чым цяпер. Паводле мяне, якраз сёння, мы можам яшчэ штосьці зрабіць, каб захаваць яе для будучых пакаленняў.

**— Што ўвогуле будзе змяшчацца ў публікацыі? Хто працаваў, працуе над кнігай аб дуброўскай мове?**

— Напэўна будзе можна ў ёй знайсці навуковыя даследаванні нашай гаворкі. Матэрыялы для кніжкі памагалі мне збіраць настаўніцы са школы ў Дуброве. Будзе змешчаны гістарычны нарыс, напісаны мясцовым краязнаўцам. Пра гісторыю каталіцкай парафіі ў Дуброве напісаў каталіцкі святар, аб праваслаўнай — бацюшка. У кнізе будуць надрукаваны выказванні цяперашніх уладароў старасты і бургамістр Саколкі. Апрача таго ў кнізе знойдзецца польска-«просты» слоўнік.

**— Калі плануеце выданне чаканай многімі кнігі? Вы, як аўтар, напэўна чакаеце нейкага водгуку. На што спадзеяцеся?**

— Кніжка выйдзе пад канец красавіка. Хачу, каб яна была своеасаблівым доказам пашаны для нашых дзядоў. Мае даказаць, што варта прысвяціць нашай мове кнігу. Нават не адну. Магчыма, погляд на гаворку калі-небудзь памяняецца — ужо мяняецца, і больш не будзе асацыявацца з невуцтвам і адсталасцю. Для гэтага, аднак, нам патрэбны людзі, прызнаныя, якія будуць рабіць нешта добрае ў публічнай прасторы і пацягнуць за сабой другіх. Усё дзеля таго, каб іншыя пабачылі, што калі той канкрэтны чалавек родам з таго рэгіёна і ў яго мове тое чуваць, гэта абазначае, што гэта з'яўляецца пазітыўнай рысай.



## Гутарка з Юрым Беламызым пра беларускую тоеснасць, пачуццё прыналежнасці і мову.

**— Вы, апрача таго, што самі займаецеся даследаваннем мясцовай гаворкі, таксама стараецеся зацікавіць ёю гімназічную моладзь. У мінулым годзе Ваша школа прымала ўдзел у праекце «Дыялог пакаленняў», дзе вучні размаўлялі са старэйшымі людзьмі і запісвалі словы ды словазлучэнні на мове жыхароў Дуброўшчыны.**

— Так, праект з моладдзю нарадзіўся з мовазнаўчых лагераў. Ад нейкага часу я ў іх удзельнічаю, і падумаў, што варта было б заняцца гаворкай нашых ваколіц. У праекце «Дыялог пакаленняў» дзеці размаўлялі са старэйшымі жыхарамі Дубровы і навакольных вёсак, запісвалі словы, стварылі архіў. Цяпер з маімі вучнямі другога класа рэалізуем праект, мэтай якога з'яўляецца не толькі пазнанне лексікі, але таксама традыцыі і культуры мясцовых людзей. Я бачу, што вучні ведаюць яшчэ гэтую мову. Калі не бацькі і дзяды, то суседзі на ёй размаўляюць. Рэалізуючы такія праекты, стараюся паказаць маладым людзям, што няма горшай і лепшай мовы. Каб ведалі, што згэтуль іхнія карані. І ў канцы, каб бачылі ў Дуброўшчыне сваю малую радзіму і маглі ёю ганарыцца.

**— Ці не думаеце, што Вы — асоба, якая мае ўплыў на рашэнні ў сакольскім павеце, мала робіце для захавання мясцовай гаворкі ды ўвогуле для падтрымкі мясцовай беларускай культуры?**

— Не ведаю каму не хапае гэтай працы. Я думаю, што раблю вельмі многа. Займаюся мовай, і так як ужо сказаў, кніжка, якая выйдзе пад канец красавіка, гэта форма падзякі ўсім, якія з яе карыстаюцца. Таксама маем у планах другую публікацыю, у якой будзем даследаваць гаворку Сакольскага павета. Але яшчэ патрабуем крыху часу. На маю думку дзве кніжкі —ці гэта мала, ці многа? Пэўна мала, але робім што можам!

**— Дзякую за размову і чакаем кнігі!**

Уршуля ШУБЗДА





# Чорным шляхам...

Трыццаць год таму я, малады гарадзенец, пачуў пра нейкую далёкую ад нас аварыю, якая здарылася на адной з атамных станцый СССР. Што там адбылося даведацца было цяжка. Людзі ў той час ужо не верылі ні афіцыйным версіям, ні дзяржаўнай прэсе. Больш давяралі чуткам і „Голасу Амерыкі". А звесткі з гэтых абедзвюх крыніц не абнадзейвалі.

У першыя ж дні стала зразумелым, што адбылася вялікая трагедыя. Ужо на першамайскіх дэманстрацыях тэмы размоў удзельнікаў у святочных шэсцях былі зусім несвяточныя. Я заўважыў, што амаль палова з тых, хто падымае кілішак горкай, пачынаюць дабаўляць у шклянкі ёд. Пазней высветлілася, што правільна рабілі. Толькі тады ніхто не растлумачыў людзям, што трэба рабіць, каб было правільна.

У забруджаную зону пачалі забіраць першых ліквідатараў. Адтуль сталі прыязджаць першыя перасяленцы. Ды і ліквідатары павярталіся хутка. Доўга там быць было нельга. І прывезлі яны вельмі нядобрыя звесткі.

Хтосьці распавядаў, як вялікія маскоўскія начальнікі асабіста прыязджалі туды, каб сваім з'яўленнем абвергнуць чуткі пра радыяцыю і тым самым абдурыць людзей. Яны нават выступалі перад ліквідатарамі. Толькі вось пасля выступу куляй ляцелі да самалёта і перад пасадкай прама на аэрадроме пакідалі сваё старое адзенне і абутак з чарнобыльскім пылам, мыліся адмысловымі вадкасцямі і апраналі свежае.

Іншыя прывозілі гісторыі пра тое, як мясцовыя начальнікі ратавалі сваіх блізкіх, дурачы іншых, нібыта нічога не здарылася. І пра тое, як давалі ліквідатарам-добраахвотнікам у падарунак дэфіцытную тады легкавушку за згоду ўсяго толькі дзве гадзіны папрацаваць у нейкім небяспечным месцы. І што тыя ахвотнікі не дажылі да першага ж дробнага рамонту сваёй машыны. І пра тое, што цяпер у вялікай частцы ліквідатараў увесь час баліць галава. І яшчэ пра тое, што многія з іх ужо ніколі не будуць мець дзяцей.

Але асабліва абурала людзей чутка, што чарнобыльскія хмары вецер нёс у бок Масквы. Ці данёс бы — невядома. Ды і пакуль данёс бы, то яны былі б ужо не такой небяспечнай канцэнтрацыі. Але кіраўніцтва прыняло рашэнне пасадзіць смяротныя воблакі на тэрыторыі Беларусі...

А адзін палкоўнік у адстаўцы, які, па яго словах, непасрэдна працаваў з сакрэтнымі дакументамі ў адным не менш сакрэтным штабе, асабіста мне распавядаў, што Чарнобыльская АЭС і маючыя пабудавацца яшчэ некалькі атамных станцый ужо ў Беларусі, апрача іншага маюць вялікае ваеннае значэнне. Маўляў, па адным з баявых планаў, калі раптам заходняя групоўка савецкіх войскаў будуць разбітыя, як у 1941 годзе, то тыя станцыі выбухнуць. Іх падарвуць, каб забрудзіць радыяцыяй тэрыторыю Беларусі і вораг праз яе ўжо не пройдзе да Масквы. А на мае словы, што тут жа жывуць свае людзі, якія ўсе загінуць таксама, ён толькі развёў рукамі, крыва ўсміхнуўся і сказаў:

— Мазгі мець трэба. Хай гэтыя свае зараз думаюць. А то пасля позна будзе.

Прайшло трыццаць год. Адны чуткі пацвердзіліся, іншыя чакаюць сваёй легалізацыі або абвяржэння... Ужо тыя дзеці, што нарадзіліся пасля Чарнобыля, маюць сваіх дзяцей. І ў генах кожнага беларуса ёсць памяць пра Чарнобыль...

Асабіста я не магу забыцца пра апошнія дні свайго сябра, ліквідатара, маладога мужа і бацькі. Незадоўга да смерці да яго прыйшлі сябры, каб падтрымаць неяк...

— Хлопцы, як я хачу быць з вамі, як я хачу жыць, — плакаў ён.

Атамных станцый пасля чарнобыльскай трагедыі саветы ў Беларусі будаваць не сталі. Яны то добра ведалі, колькі асабістых трагедый, і якую вялікую нацыянальную бяду перажыў беларускі народ. Хоць і засакрэцілі канкрэтныя звесткі, хоць і не асабліва яны непакоіліся пра лёс беларусаў, але памеры трагедыі аказаліся настолькі вялікія, што нават у такім засакрэчаным выглядзе адмахнуцца ад іх было цяжка. Не адважыліся.

Замест атамных станцый у Беларусі паставілі цеплавыя. Кажуць, працуюць няклепска. Атамную ж станцыю ў Беларусі пачалі будаваць зусім нядаўна. Па расійскіх тэхналогіях. Сцвярджаюць, што хутка запрацуе...

**Віктар САЗОНАЎ**

# Ці амарант дурны?



Вайна без абвяшчэння вайны вядзецца ў Польшчы на ўсю катушку. Яна ні адкрытая, ні гібрыдная, ні за кіраўніцтва над душамі, ні за палітычную ўладу. Хто з кім ваюе, і за што? Дакладна невядома. Яшчэ ніхто не праліваe крыві. Неназваны яшчэ вораг. Ці сапраўды гэта зацішша перад бурай?

Шмат у апошні час гаворыцца пра народ, радзіму — найчасцей з ВЯЛІКАЙ ЛІТАРЫ. Пра патрыятызм таксама. І пра традыцыю, і сям'ю. І пра права, і справядлівасць. І ўсе яны прасякнуты гарачым празмерна эмацыйным элементам. Усё на зважай. У другім шэрагу — сёння на «вольна» — стаяць такія панянці, як дзяржава, грамадзяне, вяршэнства закона, грамадскі парадак, дэмакратыя, плюралізм ва ўсіх яго праявах. Абодва шэрагі каштоўнасцей маюць шмат агульнага. У іх, безумоўна, ёсць адзін агульны назоўнік: агульнае дабро. Але справа ў інтэрпрэтацыі і ў ахопліваючых яе кантэкстах. Ці з'яўляецца большасць ужо шырокай грамадскасцю? Ці шырокая грамадскасць гэта поўная цэласць у яе індывідуалізаванай у этнічным, культурным і ідэалагічным плане разнастайнасці? Або яшчэ інакш: ці трэба адрозніваць сярод польскіх палякаў асобныя катэгорыі: палякаў ілжывых або праўдзівых?

Сутнасцю чалавечага ўспрымання з'яўляецца напалову свядомая здагадка, што нешта можа быць сапраўдным або ілжывым. Такім чынам, значэнне, якое мы даем словам, як гэта ні парадаксальна, залежыць ад таго... якое вялікае значэнне надаём для іх. Самі словы, насуперак слоўнікавым вызначэнням, нічога не значаць. Вось чаму іх рэзанне-згінанне такое простае. І тым лягчэй маніпуляваць імі. Я маю на ўвазе тут псіхалогію чалавечага ўспрымання. Возьмем у якасці прыкладу колер. Хай гэта будзе амарант. Аказваецца, што для кожнага з нас сапраўдны амарант — пурпурны колер... мае іншае адценне. Амарант якраз у польскай традыцыі мае вельмі выразнае патрыятычнае адценне. У дзевятнаццатым стагоддзі ён з'явіўся на лацканах польскіх мундзіраў і нават стаў сінонімам уланскага мундзіра ў жаўнерскай песні. Для многіх польскіх патрыётаў амарант стаў святасцю. Ці хто-небудзь сёння адважыўся б сказаць, як калісьці мастак-эстэт, што па-жывапіснаму амарант — дурны?

Цікава, што сказала б дзіця, калі б яму патлумачыць, што ягоны плюшавы мішка гэта адно мяшок з пілавіннем? Хто б адважыўся так жорстка ўварвацца ў ягонае вельмі ўражлівае царства ўяўлення, якое вызначае цецыва матчынага даверу? Гэты давер мае, для мяне, электрамагнітную энергію і з'яўляецца пастаянным носьбітам патрыятызму, любові да Радзімы і гонару ад сваёй ідэнтычнасці, неабавязкова пазначанай толькі польскасцю. Аднак адрозніваю самыя словы і тое, як іх адчуваю. Толькі што гэта мая асабістая, інтымная сфера і прэч ад гэтага ўсе, хто хоча мяне навучыць патрыятызму. Таму што я адрозніваю патрыятызм набіты пілавіннем ад шчырай любові да Радзімы, пра якую Шатабрыян так прыгожа напісаў у «Дзённіках», што ён нараджаецца ад шчырага смактання матчынага малака і мелодыі дзіцячых калыханак. І яе ўлоннем з'яўляецца родная мова.

Патрыятызм гэта справа не горла, а сэрца. Я прыслухоўваўся дыскусіі пра патрыятызм вельмі адукаваных людзей, якія са сваёй эрудыцыі зрабілі цытаталагічную зброю. Літаральна абкідваліся завучанымі цытатамі, фрагментамі твораў аўтарытэтаў навукі. Гэта было цікавае, але ўся дыскусія закрылася... у двукоссі, таму што нічога яны не ўнеслі свайго. А я чакаў ад іх мудрасці.

А знайшоў яе ў дзіўных акалічнасцях. Вось, шукаючы метафізічных адкрыццяў, я наведваў храмы розных канфесій. Зайшоў таксама ў варшаўскую сінагогу са знаёмым габрэем. Не ведаючы габрэйскай мовы, я калываўся сярод малельцаў як глухі і нямы. Адусюль чуў рэлігійныя спазмы, стогны і нават рыданне. Чакаў нейкіх гучных слоў, спадзяваўся сустрэчы з Богам. Крануў знаёмага за локаць: «Перакладзі мне пропаведзь!». А ён шэпча мне на вуха: «Той, хто нячысты, асуджаны. Таму, што асуджана нячыстасць. Пазбягай нячыстасці, пазбягай жанчын у менструальны перыяд. Пазбягай сваю жонку ў час менструацыі...».

Хтосьці спытае мяне, што тут было павучальным? Ну, нічога. Або ўсё. Тады я выйшаў з сінагогі такім жа неразумным, як і асвечаным чалавечай праўдай. Хоць адно было пэўным для мяне — мудрасць нараджаецца ад чакання, ад сэрца. Не з вуснаў яна. Таму няважна, ці амарант дурны, ці не. Амарант ёсць.

**Міраслаў ГРЫКА**



## Вачыма еўрапейца

# З уцечкі сцэнарыя

Як ужо шырока вядома па ўсёй Польшчы, беластоцкія радныя, а дакладней — старшыня камісіі культуры і прасоўвання горада Кшыштаф Стаўніцкі (клуб ПіС), пры гучнай падтрымцы клубнага сябры Паўла Мышкоўскага і раднага ад камітэта Трускаляскага Марціна Шчудлы, выказаў жаданне заблакаваць спектакль беластоцкага Драматычнага тэатра, інспіраваны кніжным рэпартажам «Беласток. Белая сіла, чорная памяць» Марціна Концкага. Прэм'ера прадстаўлення запланавана на 16 красавіка. У канцы апошняй сесіі Гарадской рады радны Стаўніцкі прызнаўся, што ў яго рукі трапіў сцэнарый п'есы.

— Вялікія грошы, якія мы трацім на прасоўванне горада, будуць выкінуты ў гразь пасля гэтага спектакля. Гэта проста непрымальнае, што такая рэч фінансуецца за кошт дзяржаўных сродкаў, — сказаў Стаўніцкі, дадаўшы, што пасля чытання кнігі Концкага адчуваў, як быццам хтосьці плюнуў яму ў твар.

Ён звярнуўся да прэзідэнта горада і радных ГП, каб устаць на абарону добрага імя Беластока і прасілі ўмяшацца ў справу віцэ-маршалка ваяводства, які назірае за тэатрам: «Ніхто не мае патрэбы ў такой п'есе, аб якой будзе гучна ва ўсёй краіне, і ўся краіна будзе думаць аб Беластоку, што гэта ксенафобскі горад, што тут — прашу прабачэння ў двукоссі — б'юць неграў і іншых. Гэта не так (...). Гэта таксама вялікі заклік, каб як-небудзь блакаваць спектакль».

Радны Марцін Шчудла даказваў: «Калі мы за грошы падаткаплацельшчыкаў фінансуем нешта, што адмоўна ўплывае на імідж і горада, і ваяводства, якія прасоўваюцца як шматкультурныя, на такое не можа быць згоды. Гэта не цэнзура мастацтва, толькі адмова фінансаваць такога роду праекты. Ёсць розніца. Калі хто-небудзь хоча, а ёсць незалежныя тэатры, хай знойдзе сабе грошы, хай знойдзе на гэта спонсараў. Калі я даведаўся, што штосьці такое мае ўзнікнуць, я адчуў сябе зняважаным».

Адказны за культуру на Падляшшы віцэ-маршалак Мацей Жыўна, каментуючы ў СМІ выступленне гарадскіх радных, сказаў пасля размовы сам-насам з дырэктаркай тэатра: «Я не ведаю, які будзе спектакль у Драматычным тэатры, але ахвотна пайду і ўбачу. Хто не хоча глядзець спектакль, у тэатр ісці не мусіць. Радныя, вядома, маюць святое права на свае заявы, але ўвесь гэты шум, аднак, зусім непатрэбны. Дрэнна здарылася, што сцэнарый, ці, дакладней, яго пробны экземпляр, прасачыўся з тэатра, што прывяло да непатрэбных эмоцый».

Прэзідэнт Тадэвуш Трускаляскі, у якога мы спыталіся, ці выступіць да маршалка, каб той спыніў прэм'еру, сказаў, у сваю чаргу, што не мае такога намеру.

Аб гэтай спробе — бо нават так назвалі — замаху на спектакль зрабілася гучна па ўсёй краіне. У абарону відовішча і супраць прэвентыўнай цэнзуры афіцыйна выступілі палітыкі ГП і «Сучаснай», а прадстаўнік гэтай партыі — Кшыштаф Мяшкоўскі, дырэктар Польскага тэатра ў Вроцлаве нават напісаў адкрыты ліст.

Мне таксама «патрапіў» у рукі сцэнарый спектакля ў рэжысуры вядомага ў тэатральным свеце польскага рэжысёра Пятра Ратайчака. Яго аўтар Пётр Рацкі за аўтарам кнігі (Марцін Концкі быў кансультантам сцэнарыя) паказвае закулісны бок улады ў Беластоку, яе сувязі з асяроддзем балельшчыкаў і Каталіцкага касцёла, але і Праваслаўнай царквы, прабуе дайсці да вытокаў нянавісці на нацыянальнай, рэлігійнай ці гамафобнай глебе. Выцягвае ўсё тое, што Беласток спрабуе схаваць пад сукно: ганебнае замоўчванне, невырашаныя праблемы. Галоўных герояў там некалькі: Прэзідэнт, Бізнесмен, Арцыбіскуп, Грамадскі Дзеяч, Дэпутат-Нацыяналіст, Балельшчык, Пані Прафесар. Без імёнаў, хоць у многіх выпадках можна ўгадаць канкрэтнага чалавека з жыцця Беластока (Пракурор ці Дэпутат-Нацыяналіст), але, верагодна, яны маглі быць узяты з жыцця іншых гарадоў. Шмат сцэн — як кажуць маладыя людзі — моцных. Сярод, несумненна, выклікаючых вельмі моцныя эмоцыі, сцэна, кранаючая дэбатаў вакол асобы капітана Рамуальда Райса «Бурага» і спалення яго атрадам праваслаўных вёсак на Беласточчыне на зломе студзеня і лютага 1946 г. Некалькі тэатральных маналогаў, дыялогаў і выказванняў моцна рэзаніруе, як тое прыпісанае Прэзідэнту: «Да вайны мы пераносілі іншых. І цяпер, хаця мы засталіся адны, па-ранейшаму іх пераносім, хоць іншыя ад нас значна далей».

Столькі ад уцечкі сцэнарыя, астатняе пабачыце самі на сцэне беластоцкага Драматычнага тэатра.

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

# ЗАВЯРШЭННЕ ДЭКАМУНІЗАЦЫІ

**Сейм 1 красавіка прыняў закон аб забароне прапаганды камунізму або любога іншага таталітарнага рэжыму ў выглядзе назваў будынкаў і аб'ектаў грамадскага прызначэння, у тым ліку вуліц, мастоў і плошчаў. Прадстаўнікі падляшскіх самаўрадаў паўднёва-ўсходняй Беласточчыны, з якімі мы гаварылі, у пераважнай большасці самі хочуць перайменаваць іх, не маюць намеру чакаць, пакуль новыя назвы будуць ім навязаны ваяводам. Мясцовыя гмінныя самаўрадаўцы, як правіла, выказваюцца за прыродную наменклатуру або вяртанне да папярэдніх назваў.**

Закон сцвярджае, што «назвы будынкаў і аб'ектаў грамадскага прызначэння, у тым ліку дарог, вуліц, мастоў і плошчаў, прысвоеныя адзінкамі мясцовага самакіравання не могуць ушаноўваць памяці людзей, арганізацый, падзей або дат, якія сімвалізуюць камунізм або любую іншую таталітарную сістэму ці іншым чынам прапагандаваць такую сістэму». У ім гаворыцца: «За садзейнічаючыя камунізму таксама лічацца назвы, якія адносяцца да людзей, арганізацый, падзей або дат, якія сімвалізуюць рэпрэсіўную, аўтарытарную і несуверэнную сістэму ўлады ў Польшчы ў 1944-1989 гадах». Сцвярджэнне ваяводам несапраўднасці пастановы аб прысваенні назвы будынку або аб'екту грамадскага прызначэння, нязгоднай з новым законам, будзе патрабаваць кансультацыі Інстытута нацыянальнай памяці — Камісіі расследавання злачынстваў супраць польскага народа, якая пацвердзіць гэтую неадпаведнасць. Ваявода можа таксама кансультавацца з Радай аховы памяці барацьбы і пакутніцтва. Важна адзначыць, што калі на працягу трох месяцаў з дня ўступлення ў законную сілу назіральнага рашэння, значыць, рашэння аб неабходнасці змяніць існуючую назву, не будзе прысвоеная новая, ваявода вынесе заменнае рашэнне, то-бок, гэта ён будзе вырашаць аб новай назве. Варта дадаць, што вынясенне заменнага рашэння ў справе перайменавання ўнутранай дарогі патрабуе пісьмовай згоды ўладальнікаў зямлі, праз якую яна пралягае.

**Анна Ідзькоўская**, прэс-сакратар падляшскага ваяводы Багдана Пашкоўскага:

— Ваявода не вядзе якога-небудзь спісу або рэестру назваў будынкаў, аб'ектаў, вуліц. Верагодна, такі сукупны рэестр увогуле не вядзецца. Такую інфармацыю могуць мець толькі мясцовыя органы ўлады, якія лепш за ўсіх сарыентаваныя ў пытанні назваў вуліц або будынкаў, размешчаных на іх тэрыторыі. Абавязак змены назваў павінен быць выкананы мясцовымі органамі ўлады на працягу дванаццаці месяцаў з дня ўступлення ў сілу гэтага закона. Толькі пасля гэтага тэрміну ваяводы могуць умешвацца, выдаваць заменныя рашэнні.

## Беласток падрыхтаваны

Паводле дадзеных ІНП ва ўсёй Польшчы каля паўтары тысячы вуліц і плошчаў названы імёнамі дзеячаў, звязаных з Польскай Народнай Рэспублікай. З неафіцыйных дадзеных вынікае, што, напрыклад, у Польшчы вуліц Караля Свярчэўскага па меншай меры 55, 22 Ліпеня — 19, Янка Красіцкага — 18, гадавін узнікнення ПНР — 15, Ганкі Савіцкай — 12, Міхала Жымерскага — 7, Людовай Гвардыі — 9, Арміі Людовай — 8, Зыгмунта Берлінга — 8, Саюза барацьбы маладых, Чырвонай Арміі, Марцэлі Навоткі, ПКНВ — па дзве. У сталіцы Падляшша з 1989 года дэкамунізавалі каля трыццаці назваў вуліц, у тым ліку вуліцы Дзяржынскага, Гагарына, Гамулкі ці Леніна, у 2013 годзе — 27 Ліпеня. Паводле гарадскіх чыноўнікаў засталося змяніць назвы васьмі вуліц, у асноўным малых у мікраараёне Пятрашы. У агульнай складанасці гэта вуліцы Аляксандра Гарбатава, Арміі Людовай, Эвеліны Савіцкай, генерала Зыгмунта Берлінга, Юльяна Леньскага, Янка Красіцкага, Зыгмунта Касцінскага і Юзэфа Зюлкоўскага. Найбольш эмоцый выклікае назва вуліцы генерала Берлінга, камандуючага 1-й Польскай Арміяй, паколькі гэтая вуліца знаходзіцца ў складзе галоўнага транспартнага шляху ў мікраараёне Дзесяціны. Прэс-сакратар беластоцкага аддзела ІНП Тамаш Данілецкі прызнаецца:

— Генерал Берлінг быў проста выканаўцам савецкіх загадаў. Ён быў камандзірам Людовага Войска Польскага, створанага для таго, каб ажыццяўляць дырэктывы Масквы.

Аддзел геадэзіі ўправы горада Беластока падрыхтаваў спіс асоб заслужаных для горада, які распрацоўваецца на аснове прапаноў жыхароў і радных, і якія могуць замяніць дасюлешніх камуністычных патронаў (гэтак званы банк патронаў). **Марыюш Громка** (ПіС, клуб гэтай партыі мае большасць у гарадской радзе), старшыня Гарадской рады Беластока ў размове з «Нівай» запэўніў:

— Напэўна ў гэтым годзе ўсе змены зробім. Пачакаем, аднак, рашэння ваяводы аб тым, якія назвы павінны быць зменены. Было б добра, каб самі жыхары выказаліся, якія новыя назвы ім падыходзяць, неабавязкова з банка патронаў, маглі б прадставіць іншыя прапановы.



■ Саколка

На працягу апошніх некалькіх месяцаў Гарадская рада Беластока, не чакаючы закона ад 1 красавіка, перайменавала вуліцы Тэадора Дурача і Дзмітрыя Гаскевіча ў мікраараёне Пятрашы. Першага патрона — адваката камуністаў — замяніла Данута Седзікуўна «Інка», а другога — камуніста, забітага пасля вайны незалежніцкім падполлем — Лукаш Цяплінскі, прадстаўнік таго ж падполля, на якім камуністы здзейснілі судовае забойства. На будучыя змены ў сёлетнім гарадскім бюджэце ўжо выдзелены адпаведныя сродкі, а ўжо чатыры гады таму Дзяржаўны архіў у Беластоку падрыхтаваў публікацыю з біяграфіямі патронаў беластоцкіх вуліц, якая можа быць дапамогай у рэалізацыі новага дэкамунізацыйнага закона.

## Не хочуць загаду

У асобных мясцовасцях паўднёва-ўсходняй часткі Беласточчыны яшчэ дзе-нідзе можна сутыкнуцца з назвамі, якія згодна з першакрасавіцкім законам неабходна перайменаваць. У Орлі, напрыклад, гэта вуліца Арміі Чырвонай. Старшыня Гміннай рады Орлі **Аляксандр Клін**:

— Мы пачакаем рашэння ваяводы, загадваючага нам змяніць назву. Можа вернемся да тае, што была раней — вуліцы Пасвентнай. Патрэбныя кансультацыі з грамадскасцю па гэтым пытанні. Была ўжо прымерка да гэтай змены, але не было грамадскага прызнання. Людзі не хочуць важдацца са зменай пасведчанняў асобы і іншых дакументаў, плаціць выніканючыя з гэтага зборы.

У Кляшчэлях і ў Нурцы-Станцыі можна прагуляцца па вуліцы камуністычнага дзеяча, генерала Свярчэўскага-«Вальтэра». Старшыня Гарадской рады Кляшчэляў **Кшыштаф Лянге**:

— Мы не хочам чакаць загаду ваяводы. Назвы вуліц у Кляшчэлях хочам упарадкаваць комплексна пасля кансультацый з грамадскасцю. Пры нагодзе плануем змяніць і назву вуліцы Свярчэўскага. Мо трэба будзе падумаць і пра вуліцу 1 Мая, таму што асацыюецца з ПНР, але ў рэшце рэшт гэта свята ўсіх рабочых і выдумалі яго амерыканскія жанчыны ў канцы дзевятнаццатага стагоддзя, так што, верагодна, не будзем мяняць. І чаму менавіта ў нас ёсць вуліца Пушкіна? Я ведаю, што ён вялікі паэт і, у прынцыпе, нікому не мяшае, але можа варта, каб вуліца насіла імя каго-небудзь з тутэйшых, напрыклад, нашага праваслаўнага святара з дзевятнаццатага стагоддзя Антонія Сасноўскага.

Гмінная рада Нурца-Станцыі прымервалася да змены назвы вуліцы Свярчэўскага. Аднак, гэтая ідэя не атрымала адабрэння жыхароў, па гэтых жа прычынах, што і ў Орлі.

Найбольш шырока новы закон тычыцца Гайнаўкі. Там да гэтага часу не былі зменены вуліцы камуністычных актывістаў, такіх як Янэк Красіцкі, Генрык Руткоўскі, Уладзіслаў Кнеўскі, Уладзіслаў Гібнер, Малгажата Фарнальская, Павел Фіндэр. Старшыня Гарадской рады Гайнаўкі **Якуб Астапчук**:

— У агульнай складанасці гэтых вуліц няма нават дзесяці. Мы пачакаем са зменамі да апошняга моманту (пасля сцвярджэння ваяводам несапраўднасці назваў — М. Х.). Ніхто не любіць таго, калі табе загадваюць. Як рада, мы будзем старацца ўвесці свае назвы. Я — работнік драўнінай прамысловасці і думаю, што добра было б, каб замест спрэчнай назвы была, напрыклад, Дубовая. Мы да гэтага часу не маем вуліцы Зубра, а такая ёсць нават у варшаўскім мікраараёне Млаціны. Я пракансультую такія прапановы з бургамістрам і прадстаўлю іх радным.

Усё паказвае на тое, што рашэннем ваяводы будзе палічана несапраўднай — супраць волі мясцовага насельніцтва — пастанова аб прысваенні вуліцы ў Нараўцы імя Аляксандра Валкавыцкага, да адмены якой здаўна заклікае ІНП, абвінаваціўшы гэтага патрона ў камуністычнай дзейнасці. Падобны лёс у канчатковым рахунку чакае яго як і патрона мясцовай школы. Старшыня Гміннай рады Нараўкі **Андрэй Мядзведзь**:

— Мы не павінны дзейнічаць паспешліва. Мы не будзем апярэджваць пастанову ваяводы і пачакаем магчымага рашэння, якое будзе патрабаваць ад нас змены. Калі б гэта адбылося, то мы не будзем чакаць, пакуль хтосьці па-за намі прыме рашэнне аб новай назве. Па-мойму, няма ніякіх падстаў, каб Аляксандр Валкавыцкі падлягаў пад гэты закон.

У многіх мясцовасцях таксама ў паўднёва-ўсходняй часткі Падляшша яшчэ ў апошнія гады змянілі назвы. Напрыклад, Янэк Красіцкі, старшыня камуністычнага Саюза барацьбы маладых, перастаў быць патронам адной з вуліц у Саколцы са студзеня 2010 года. Цяпер вуліца носіць імя Ігнацы Красіцкага. Праблем з такімі імёнамі, здаецца, не мае Бельск-Падляшскі. Старшыня мясцовай Гарадской рады **Ігар Лукашук**:

— Я не сустрэўся ў нас з палітызаванымі імёнамі ў гэтым кантэксце.

## Што з могільнікамі?

Прэс-сакратар ваяводы **Анна Ідзькоўская**:

— Улічваючы, што закон уступіць у сілу праз тры месяцы з дня апублікавання (пасля пераходу яшчэ праз Сенат, пасля магчымага вяртання ў Сейм, калі будуць папраўкі, і пасля падпісання яго прэзідэнтам — М. Х.), ваявода мае пятнаццаць месяцаў з даты яго апублікавання ў афіцыйным зборніку пастаноў і законаў на падрыхтаванне тэхнічных мер, на прыняцце вырашэнняў адносна згоднасці назваў з законам, на ацэнку колькасці будынкаў і аб'ектаў грамадскага прызначэння, якія падлягаюць закону, а якія ў гэты перыяд не будуць перайменаваны адзінкамі мясцовага самакіравання і г.д. Сам закон не ўтрымлівае ніякіх вырашэнняў у гэтым абсягу.

Так што невядома, паводле якіх крытэрыяў ваявода меў бы прысвойваць новае імя, калі гэтага не зробяць гмінныя рады. Закон не ўдакладняе, ці будзе ён ахопліваць будаўнічыя аб'екты, такія як статуі, абеліскі, бюсты і мемарыяльныя дошкі, а таксама аб'екты на магілках савецкіх салдат. Аб удакладненне закона звярнуўся да законатворцаў старшыня ІНП Лукаш Камінскі. Можна спадзявацца, што ўдакладненні будуць. У гэтым выпадку таксама ваявода будзе рашаць пра знос такіх аб'ектаў, а калі ў іх змешчаны магілы, можа загадаць эксгумацыю парэшткаў у іншае месца.

Старшыня Астапчук:

— Мы зробім усё магчымае, каб на гайнаўскім могільніку воінаў Савецкай Арміі нічога не чапаць, не мяняць.

За прыняцце закону ад 1 красавіка прагаласавала 438 дэпутатаў, супраць — аніводзін, адна асоба ўстрымалася. Пасведчанні асобы тых, хто пражывае пры «старых» вуліцах, захаваюць сапраўднасць да канца іх тэрміну. Грамадзяне будуць несці выдаткі, звязаныя са зменай дакументаў з пазначаным адрасам, напрыклад кошты фатаграфіі, праезду, шыльдаў, візітных картак, фірменных бланкаў і г.д., са стратай даходу за час афармлення дакументаў. Мясцовыя самаўрады будуць несці выдаткі, звязаныя са зменамі ў дакументах і на таблічках. Закон таксама спараджае выдаткі ў справах па сцвярджэнні несапраўднасці пастановы і заменным распараджэнні. ІНП ацаніў іх у 1 мільён 200 тысяч злотых, у тым ліку 300 тыс. зл. на новыя працоўныя месцы. Тамаш Данілецкі запэўніў, што аддзел ІНП у Беластоку не вядзе рэестру назваў будынкаў і аб'ектаў, згаданых у законе ад 1 красавіка, але, па сутнасці, гатовы выказаць сваё меркаванне па прапанове ваяводы. Па кожнай з іх паасобку.

Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА

## Нарваўская дэмаграфія

У Нарваўскай гміне Гайнаўскага павета 47 вёсак і вёсачак, у тым ліку 39 салэцкіх. Найбольшыя гэта Нарва (пражываюць у ёй 1 434 асобы), Трасцянка (203), Ласінка (183), Тыневічы-Вялікія (133), Крывец (128), Макаўка (116), Гарадзіска (86), Адрынкі (85), Сацы (77), Ляхі (70), Агароднікі (69), Анцуты (66), Ваські (65), Храбустоўка (57), Тыневічы-Малыя — 52 і Прыбудкі — 46. Ва ўсёй гміне пражывае 3 618 чалавек. Тры гады таму было 3 849.

Лік жыхароў рэзка падае ў Тыневічах-Вялікіх (на 21 асобу), Нарве (19), Ласінцы (14), Макаўцы і Сацах (11), Адрынках і Трасцянцы (9) ды ў Ляхах і Храбустоўцы (8).

Да найменшых вёсак належаць Катлоўка — 45 жыхароў, Кавела — 44, Навіны — 41, Рагозы — 40, Ванева — 39, Лапухоўка — 37, Бялкі і Дарацінка па 36, Козлікі — 35, Кутавая — 33, Градочна, Істок, Пухлы і Рыбакі — па 30 (у Пухлах прыбыло трох жыхароў), Янова — 24, Падбаравіска і Сакі — у іх па 20 жыхароў, Радзькі — 19, Цімахі — 17, Іванкі — 16, Гарэнды і Скарышэва — па 12, Граматнае — 11, Брушкоўшчына — 10, Усаршчына — 8, Пашкоўшчына — 7, Цісы — 3, Забалацце і Гайдукоўшчына — па 2 ды Качалы — 1.

Нарваўская гміна займае плошчу ў 24 тысячы гектараў. Насельніцтва размешчана па тэрыторыі гміны нераўнамерна. Ніжэйшая шчыльнасць там, дзе знаходзяцца дзяржаўныя лясы (займаюць яны 35,2% усёй тэрыторыі), балоты. У сярэднім яна — 15 чалавек на 1 квадратны кіламетр. У нацыянальных адносінах насельніцтва гміны неаднароднае: жывуць тут беларусы і палякі.

У 2015 годзе ў Нарваўскай гміне нарадзілася 22 дзяцей ды памерлі 82 асобы (у 2010 і 2011 гадах памірала прыблізна па сто чалавек штогод), У 2012 годзе ў летапісе Нарваўскай парафіі фіксуецца 77 пахаванняў). Адзінаццаць пар атрымалі медалі «За шматгадовае шлюбнае сужыццё», прысвоеныя прэзідэнтам РП. У гміне на 100 мужчын прыпадае 105 жанчын. Зараз стогадовых жыхароў няма.

## Крытыка дапамагла

У „Ніве" № 14 ад 3 красавіка гэтага года быў мой допіс пад загалоўкам „Выбоіны на дарозе". Пісаў я пра ўхабістую маставую на ваяводскай дарозе № 687, якая бяжыць з Юшкавага Груда ў Навасады цераз Бандары, Новае Ляўкова і Нараўку. 7 красавіка г. г. я гаварыў па тэлефоне з кіраўніком Падляшскага праўлення ваяводскіх дарог (ППВД) у Беластоку, які наведаў Гмінную ўправу ў Нараўцы ў сувязі з пісьмом ад гмінных улад да ППВД.

Кіраўнік рамонтнай групы распытваў на ўправе, дзе маюць рамантаваць дарогу. Тады сакратар Гміннай управы Міхал Бароўскі патэлефанаваў мне. Я папрасіў кіраўніка, каб адрамантавалі пад'езды і „залаталі" выбоіны ў асфальце на маставой у Новым Ляўкове на 250-метровым адрэзку ад пачатку вёскі Новае Ляўкова (з напрамку ад вёскі Плянта) да моста на рэчцы Баброўцы. 7 красавіка г. г. усе ўхабіны ў асфальце на вышэйзгаданым кавалку ваяводскай дарогі былі залатаны!

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

# Мастацкая майстэрня

**У Музеі і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы дзейнічае Майстэрня мастацкіх тэхнік, у якой мастацтву вучыць мясцовы жывапісец Данель Грамацкі. 18 сакавіка адбылося падвядзенне вынікаў працы майстэрні і адкрыццё выставы. На ёй экспануюцца 156 прац 21 аўтара, якія ў 2014 і 2015 гадах выканалі ўдзельнікі майстэрні ў тэхніках жывапіс, рысунак, лінагравюра, гіпсагравюра і манатыпія. Некаторыя аматары свае першыя крокі ў галіне мастацтва ставілі ў майстэрні, а іншыя пад кірункам Данеля Грамацкага ўдасканальвалі свае ўмеласці. На экспазіцыі прэзентуюцца таксама іконы.**



■ Удзельнікі Майстэрні мастацкіх тэхнік са сваім настаўнікам Данелем Грамацкім (пяты справа)

— Першыя мастацкія заняткі ў музеі вёў Віктар Кабац. Пасля я стаў весці Майстэрню мастацкіх тэхнік. Ужо дзясяткі асоб займаліся ў майстэрні. Адны бачылі, што не атрымліваецца ў іх маляванне, і адыходзілі. Цяпер у нашай майстэрні пастаянна займаюцца каля 10 чалавек, якія свой вольны час прысвячаюць мастацтву. Вучацца яны мастацкім тэхнікам, слухаюць маіх парад. Удзельнікі нашай майстэрні практыкуюцца таксама дома. Каб пачаць маляваць трэба набыць адпаведныя веды. Рэцэпт на поспех у галіне жывапісу гэта 90% працы і толькі 10% здольнасці. Аднак без здольнасцей нават самая вялікая праца не давядзе да поспеху, — сказаў Данель Грамацкі.

Удзельнікі Майстэрні мастацкіх тэхнік хвалілі свайго настаўніка за ангажаванасць у час заняткаў, калі ён стараецца як мага найбольш эфектыўна перадаць свае веды і навучыць мастацкім тэхнікам. Раней вучыў ён удзельнікаў майстэрні асновам жывапісу, графікі і рысунку. Падказваў, як правільна выканаць кампазіцыю працы, як карыстацца колерамі, як адлюстроўваць на карціне святло, выконваючы нацюрморт або малюючы прыроду.

— Важныя таксама многія іншыя падставы, а нават і дэталі. Я гавару, каб мае вучні, малюючы, запаўнялі колерамі цэлую працу, а не толькі канцэнтраваліся на нейкай частцы карціны. Зрабіўшы перапынак у палове работы, павінны яны пакінуць запоўненую фарбамі цэлую работу, а пасля ізноў працаваць, выконваючы розныя дэталі. Падчас заняткаў у майстэрні я вучу, паўтараю сказанае, а нават пачынаю гаварыць узвышаным голасам і прыходзіцца нават крыкнуць, каб атрымаць мною задуманае. Аднак у цэлым я рады поспехам маіх вучняў, якія ў пераважнай большасці слухаюць маіх парад, ахвотна займаюцца ў майстэрні і дома. Рэзультат працы ўдзельнікаў нашай майстэрні відаць на сённяшняй выставе. Бачым тут працы выкананыя на розным узроўні, бо і ўдзельнікі нашых заняткаў пачыналі займацца ў майстэрні ў розным часе і пасля падцягваюцца да сярэдняга ўзроўню, — патлумачыў Данель Грамацкі.

— Я веды наконт мастацтва здабыла падчас вучобы ў вышэйшай навучальнай установе, але на практыцы мастацтву вучылася тут, пад кірункам Данеля Грамацкага. На заняткі ў майстэрні прыводзіла я таксама сваю дачку Марысю, якой спадабалася тут працаваць і маляваць. Данель Грамацкі патрапіць зацікавіць жывапісам. Ён — патрабавальны настаўнік, які хоча навучыць падставам, каб пасля можна было ўдасканальваць свае мастацкія ўмеласці і разгортваць зацікаўленні. Стаў нас вучыць з азоў — паказваў, як на рамку нацягнуць палатно, як яго падрыхтаваць да малявання і як правільна карыстацца алейнымі фарбамі. Данель Грамацкі вучыць тэхнікам і важна, каб паспрабаваць выконваць працы ў розных тэхніках, а пасля выбраць той напрамак, які акажацца найбольш цікавым, — сказала Агнешка Ціханюк, адказная ў Гайнаўскім белмузеі за мастацкую дзейнасць.

— Данель Грамацкі вядзе Майстэрню мастацкіх тэхнік ужо некалькі гадоў. Удзельнікам майстэрні заняткі падабаюцца. У нас сабралася група здольных жыхароў Гайнаўкі і наваколля, якая папаўняецца што і раз новымі ўдзельнікамі. Данель патрапіць зацікавіць заняткамі, новымі тэхнікамі і ўмее пераказаць веды сваім вучням, — сказаў дырэктар Гайнаўскага белмузея Тамаш Ціханюк, які адкрыў выставу.

Дырэктар белмузея падзякаваў Данелю Грамацкаму за ангажаванасць, а ўдзельнікам майстэрні — за ўдзел у працы музейнай майстэрні. Данель Грамацкі атрымаў кветкі і словы падзякі ад сваіх вучняў.

У выставачнай зале экспануюцца працы, між іншым, Міраслава Хіліманюка з Гайнаўкі і Тамары Кердалевіч з Чаромхі, якія ў майстэрні займаюцца ўжо некалькі гадоў і рэгулярна прад'яўляюць свае працы на Агляд непрафесійнага мастацтва Гайнаўскай зямлі, займаючы ў гэтым конкурсе прызавыя месцы.

— Я — самавук. Пачынаў я маляваць інтуітыўна, нешта прачытаўшы і падгледзеўшы ў іншых. Многаму я навучыўся ў майстэрні Данеля Грамацкага. Я пазнаёміўся з мастацкімі тэхнікамі, аб якіх раней мала ведаў, спрабаваў выканаць графіку. Тут навучыўся правільна падбіраць колеры, даведаўся як размясціць на сваёй рабоце тое, што бачу. Падчас заняткаў я паправіў свой варштат працы. Штогод прымаю ўдзел у Аглядзе непрафесійнага мастацтва Гайнаўскай зямлі. Выконваючы работы на конкурс, выкарыстоўваю тое, чаму навучыўся на занятках, — сказаў Міраслаў Хіліманюк.

— У аглядзе мастацтва непрафесіяналаў я прымала ўдзел здаўна. У сваіх працах прымяняю розныя тэхнікі і прэзентую на іх розныя матывы. Спадабалася мне графіка, якой раней не займалася. Важна было пачуць заўвагі прафесійнага мастака. Я заахвоціла сяброўку Ірэну Лагвінюк з Чаромхі, каб прыязджала сюды на заняткі, — гаварыла Тамара Кердалевіч.

— Я не выконваю прац на так добрым узроўні, як мая сяброўка Тамара Кердалевіч. Выйшаўшы на пенсію, рэалізую сваё зацікаўленне, адлюстроўваю ўбачанае мною на карцінах. У майстэрні вучуся правільна маляваць і рысаваць, — заявіла Ірэна Лагвінюк.

Яўгенія Маліноўская з Гайнаўкі таксама многаму навучылася ў Майстэрні мастацкіх тэхнік.

— Для мяне самае важнае, каб рэалізаваць свае страсці і забыць пра штодзённыя складанасці. Дзякуючы таму, што я малюю тут і дома, я магла забываць аб сваіх клопатах, — сказала Яўгенія Маліноўская.

Разам са сваім бацькам Данелем Грамацкім паспрабавала займацца ў майстэрні Анастасія Грамацкая, вучаніца першага класа пачатковай школы, якая раней прымала ўдзел у вучнёўскіх і агульнадаступных конкурсах і дабівалася там поспехаў. У пачатку гэтага школьнага года пачалі займацца ў майстэрні вучаніцы Гайнаўскага белліцэя, аднакласніцы Магдалена Куптэль, Іга Келбашэўская і Анна Несцярук, якім добра атрымлівалася рысаванне і маляванне. З іх толькі Магда Куптэль працягвае займацца ў майстэрні.

— Я люблю рысаваць і маляваць. Я ў майстэрні вучуся правільна выконваць свае працы, — заявіла Магда Куптэль, бацькі якой прыбылі ў музей паглядзець плён працы сваёй дачкі.

Івона Кулік прыходзіць на заняткі ў белмузей разам са сваёй дачкой Аліцыяй, каб навучыцца мастацкім тэхнікам. Для Зінаіды Андраюк мастацтва — важнае зацікаўленне, якое стараецца разгортваць, карыстаючыся парадамі вопытнага мастака.

— Я наваколле адлюстроўваю на фатаграфіях. Жывапіс гэта дадатковае маё зацікаўленне. Мы выязджалі на пленэры і малявалі краявіды. На прыродзе сонца цэлы час перамяшчаецца і мяняецца асвятленне. На пленэры можна было выканаць эскізы і пасля на іх падставе выканаць у майстэрні карціну, — заявіў Славамір Кулік, які на заняткі ў белмузеі прыязджае з Дубіч-Царкоўных.

Марк Сапёлка займаецца нядоўга, але — паводле Данеля Грамацкага — за гэты перыяд навучыўся многаму.

— Мастацтва гэта мая пасія. Стараюся выконваць працы згодна з заўвагамі Данеля Грамацкага. Заняў я другое месца ў мастацкім конкурсе для непрафесіяналаў, які ладзіць Ваяводскі асяродак анімацыі культуры ў Беластоку, — заявіў Марк Сапёлка.

Удзельнікі майстэрні згодна сцвердзілі, што атмасфера ў групе, якая займаецца ў белмузеі, добрая, што карысна і прыемна праводзяць тут час.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**

# Першы такі арт-кірмаш

**Жывапіс, скульптура, фатаграфія, дызайн, выяўленчае мастацтва былі прадстаўлены на Нацыянальным стадыёне ў час першага такога арт-кірмашу International Art Fair Warsaw (IAF). Прынялі ў ім удзел дзясяткі артыстаў з усяго свету. Прадстаўлены былі галерэі такіх краін як Вялікабрытанія, Швейцарыя, Украіна, Германія, Аўстрыя і Румынія. Бачнае месца адразу пасля ўваходу на выставачную плошчу стадыёна прызначылі мінскай галерэі «A&V», якая прыцягнула натоўпы наведвальнікаў. Беларуская галерэя паказала працы Аляксандра Някрашэвіча, аднаго з цяперашніх зорак беларускага мастацтва.**



Войцех Фібак каля стэнда галерэі «A&V»

Яшчэ да кірмашу (7-10 красавіка) яго арганізатары адзначылі, што гэта «агляд таго, што адбываецца ў мастацтве, якія тэмы і тэндэнцыі ў цяперашні час дамінуюць, і якія праблемы ставіць мастацтва перад мастакамі».

— International Art Fair — Міжнародны мастацкі кірмаш з'яўляецца выдатнай магчымасцю пазнаёміцца з галерэямі і мастакамі да гэтага часу непрысутнымі або рэдка прысутнічаючымі ў Польшчы, а таксама творамі польскіх мастакоў, якія прадстаўляюцца ў асноўным у замежных галерэях, — запэўнівала Бэата Рашкоўска, задумшчыца і дырэктарка кірмашу, калекцыянерка.

IAF быў багаты не толькі па багатай выставачнай праграме. Можна было прыняць удзел у шматлікіх спадарожных мерапрыемствах — у сустрэчах, дэманстрацыях фільмаў, дыскусіях пра мастацтва ў гарадской прасторы, гісторыі і мастацтве калекцыянавання сучаснага дызайну, вулічным мастацтве і відэа-арце ды ўзаемаадносінах паміж модай і мастацтвам. На кірмашы можна было ўбачыць, сярод іншых, працы Роберта Індыяны, амерыканскага мастака, звязанага з поп-артам, стваральніка культавага надпісу LOVE і Ігара Мітарая, вядомага ва ўсім свеце польскага скульптара (спрэчна прынятага ў Польшчы) ці мастацкія фатаграфіі Міхаіла Барышнікава, легенды сусветнага танца. Усіх іх прадстаўляла галерэя «Concini Art» з Вялікабрытаніі. Тут цэны прац дасягалі некалькіх соцень тысяч еўра (адна з работ Ігара Мітарая — скульптура ляжачай галавы каштавала паўмільёна еўра), але кірмаш быў накіраваны ў асноўным на калекцыянераў і дзелавых людзей. У размове з «Нівай» куратарка IAF Малгажата Міськовец, выпускніца Варшаўскага ўніверсітэта (гісторыя мастацтва) і Ягелонскага ўніверсітэта ў Кракаве (міжнародныя культурныя даследаванні) сказала:

— Кожны такога тыпу кірмаш характарызуецца нейкай схемай, і мы, вядома, у яе ўвайшлі, але нас адрознівае тое, што ў дадатак да выяўленчага мастацтва таксама прысутнічае дызайн, і спрабуем гэта спалучыць. І гэта несхематычнае, і пачынае з'яўляцца ў свеце, напрыклад, на кірмашах у Парыжы. Як правіла, арганізуюцца асобныя кірмашы выяўленчага мастацтва і дызайну, а паміж імі толькі тонкая грань, якая аддзяляе іх.

Адбор удзельнікаў зрабіла спецыяльная Праграмная рада, якая заўважыла беларускую галерэю «A&V»:

— Галерэі, якія мы запрасілі, не ўзяліся з нейкай «аблавы». Можа склалася такое ўражанне, таму што на самой справе тут вялікая разнароднасць, што адрознівае кірмаш ад, напрыклад, біенале мастацтва. З «A&V» мы ўжо збольшага вядомы. Мы, гэта значыць я і адна з маіх калег з Праграмнай рады. Гэта маладая галерэя, а мы робім стаўку на адносна маладыя і амбіцыйныя галерэі. Аляксандр Някрашэвіч — вельмі цікавы творца, зорка беларускага мастацтва. Перамагае ён на сусветных конкурсах і вядомы ва ўсім свеце. Да таго ж, як спосаб экспазіцыі, так і форма саміх карцін прыцягваюць гледача. Цікавым з'яўляецца ягонае балансаванне паміж рознымі стылямі, фармат малюнкаў і тое, што яны ствараюць уражанне манументальных з памежжа сюррэалізму і казкі. Наведвальнікі кірмашу часта падыходзяць да беларускай выстаўкі, пытаюцца, таксама пра беларускае сучаснае мастацтва ў цэлым.

Стэнд беларускай галерэі быў размешчаны побач з брытанскім стэндам, і непасрэдна побач з украінскім. «A&V» у Мінску знаходзіцца ў прэстыжнай старой частцы сталічнага горада. Вядуць яе сёстры Марыя Абдо і Кацярына Сафі. Марыя Абдо ў размове з намі падчас кірмашу сказала:

— У траўні мінае год з моманту адкрыцця нашай галерэі. Мы галоўным чынам прасоўваем маладых мастакоў, і толькі беларускіх. Тым не менш, супрацоўнічаем з больш прызнанымі, больш вядомымі на арт-рынку беларускімі мастакамі старэйшага пакалення. Не так даўно мы арганізавалі вялікую выставу народжанага ў Брэсце ў 1945 годзе Льва Алімава, графіка, які працуе ў тэхніцы афорта. Гэта была яго першая персанальная выстава ў Беларусі. Надалей распрацоўваем свой імідж.

У бліжэйшы час мінская галерэя мае прадстаўляць працы аднаго з самых цікавых беларускіх мастакоў маладога пакалення Алега Касцючэнкі, які нарадзіўся ў 1984 годзе ў Мінску, мастака, які працуе ў манументальна-дэкаратыўным мастацтве і ў станковым жывапісе. Марыя Абдо ў размове з «Нівай» дадала:

— У Мінску такіх мастацкіх галерэй вельмі мала. На самой справе, можна палічыць іх на пальцах. Дзяржаўныя музеі, галерэі сучаснага мастацтва баяцца маладых мастакоў. Таму найчасцей паказваюць тых, хто ўжо з'яўляецца членам якіх-небудзь афіцыйных творчых саюзаў. Мы гэтым ад іх адрозніся, што не баімся паказаць маладых. У адрозненне ад іх, для нас не важна, ці мастак мае дзяржаўную мастацкую адукацыю ці не мае, гэта значыць, ці з'яўляецца ў іх разуменні прафесіяналам.

Народжаны ў 1973 годзе Аляксандр Някрашэвіч вучыўся ў Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў (аддзяленне манументальна-дэкаратыўнага жывапісу). У 1996 годзе ён атрымаў стыпендыю Беларускай акадэміі выяўленчага мастацтва, і з 2004 года з'яўляецца членам Беларускага саюза мастакоў. Крытыкі пішуць пра яго: «Яркі і неардынарны мастак. У яго свеце жывуць матылькі, якія замёрлі на тварах камікадзэ, неба, налітае ў каваы кубак, бультэр'еры з гадзінніковым механізмам. З гэтым далікатным светам мастацтва ён увесь час эксперыментуе, трансфармуючы класічныя і сучасныя вобразы сусветнага мастацтва: спявачка Мадонна ў працы Някрашэвіча плаўна «перацякае» ў «Мадонну Літту» да Вінчы, а неверагодны Халк у старажытнагрэцкага Геракла». На кірмашы галерэя «A&V» прадставіла яго пяць прац алеем на палатне, якія нагадваюць трохі від з калейдаскопа — аптычнай прылады, цацкі для дзяцей. Марыя Абдо:

— Аляксандр Някрашэвіч ужо вядомы мастак, таксама за межамі Беларусі, асабліва ва Украіне. Некаторыя працы зрабіў спецыяльна для выставы на кірмашы. На дадзены момант у яго не было персанальнай выставы ў нашай галерэі, але неўзабаве падрыхтуецца.

З-за цёмна-шэрага набору колераў, формы (круг) і памеру (160 см), а таксама матываў работы беларускага мастака на выставе кідаліся ў вочы. У параўнанні з працамі іншых прысутных на IAF галерэй карціны Аляксандра Някрашэвіча былі адносна недарагімі — па пятнаццаць тысяч еўра кожная. Столькі захацеў аўтар згодна з тым, за колькі цяпер яго працы можна набыць на арт-рынку, а ўласніцы галерэі «A&V» заўсёды адаптуюцца ў гэтых адносінах да патрабаванняў творцаў. Як правіла, бягучыя цэны прац так званых вядомых і прызнаных, жывых беларускіх мастакоў дасягаюць у некалькіх выключных выпадках да больш дзясятка тысяч еўра. Сярод зацікаўленых у час работы кірмашу працамі Аляксандра Някрашэвіча заўважылі мы вядомага калекцыянера, уладальніка адной з варшаўскіх галерэй, былога чэмпіёна па тэнісе Войцеха Фібака. У гутарцы з намі ён сказаў:

— Адчуваецца ў гэтых працах нейкі беларускі рэгіяналізм. Гэта такое крыху народнае мастацтва ў спалучэнні з тым, што сучаснае, прыгадваючае фатаграфію. Такі свайго роду калаж. Беларускі стэнд адрозніваецца ад іншых не толькі тым, як прадстаўнікі галерэі ставяцца да наведвальнікаў, як яны элегантна апранутыя. На іншых працах шмат геаметрычнай абстракцыі, а гэтае мастацтва адрозніваецца, яно кідаецца ў вочы. Прыемна, што хтосьці з Мінска прыязджае і паказваецца на кірмашы ў Варшаве і што можна пазнаёміцца з мастацкімі беларускімі галерэямі. Было б карысна наогул у Варшаве пабачыць працы сабраныя ў беларускіх галерэях. Тым больш, што ў цэлым я нічога не ведаю пра беларускае мастацтва. Я не куплю працы Аляксандра Някрашэвіча, але толькі таму, што збіраю выключна польскае мастацтва. Тым не менш, я пакінуў ім свае каардынаты.

**Тэкст і фота Мацея ХАЛАДОЎСКАГА**

## У мяшку шыла не схаваеш...

З пачаткам красавіка рушыла ўрадавая праграма *Сям'я 500 +*. Гэтая лозунгавая прынада прынесла Праву і справядлівасці перамогу ў выбарчай кампаніі і ўзвяла ПіС на п'едэстал улады. Не важна, што зараз павіннасць *Сям'я 500 +* выклікае рознагалоссі ды спрэчкі. Асноўная справа, што каманда старшыні ПіС Качынскага, пасля васьмігадовай адстаўкі, атрымала большасць у парламенце, што дазваляе ім прагаласаваць любы законапраект. Так, здаецца, маецца справа са згаданымі павіннасцямі...

У выбарчай кампаніі сённяшняя прэм'ер-міністр Бэата Шыдла абяцала выплаты ўсім польскім дзеткам. Аб выплаце на першае дзіця меў рашаць крытэрый прыбытку, а на другое і чарговыя дзеці мелі атрымаць усе сем'і. Зараз таго няма. У сямействе, якое мае двое дзяцей, напрыклад, першае дзіця, калі дасягне паўналецця, выплаты не атрымае, а другое абумоўлена крытэрыем даходу (800 зл. на адну асобу або 1200 зл. у выпадку інваліднасці дзіцяці). І гэта, на думку заступніка грамадзянскіх правоў, дзеліць дзетак на лепшых і горшых. Гэта негуманна. Шматлікія выбаршчыкі адчуваюць сябе ашуканымі.

Але ёсць такія, што цешацца, пакольві бедным сямействам трапляецца значны грашовы прыбытак. Поўны аптымізму жыхары і ў Чаромхаўскай гміне.

На дзень 31 снежня 2015 года ў гміне былі прапісаны 342 асобы ва ўзросце 0-17 гадоў. Па ацэнцы войта Міхала Врублеўскага, выплатамі пакарыстаецца больш за дзвесце дзетак. Гміна атрымала на гэты год каля мільёна восемдзесят тысяч злотых на выплату павіннасці.

— На 8 красавіка, — кажа кіраўнік Гміннага асяродка сацыяльнай дапамогі Марыя Зіневіч, — паступіла 87 заяў на выплату павіннасці. І гэтая колькасць будзе папаўняцца. Карыстаемся пяццю працоўнымі штатамі. Спраўляемся пакуль што з задачамі. Лічу, што затрымкі з выплатай не будзе. Грошай пакуль не атрымалі, але неўзабаве паступяць. Затым будзем працягваць афармляць дакументы, выдаваць рашэнні ды выплачваць грошы.

Як адзначыла кіраўнік ГАСП паступіла заява аб прызначэнні павіннасці для васьмі дзетак. Гэта абазначае, што сямейства атрымае штомесячна чатыры тысячы злотых прыбытку. Калі прыбавіць да таго прызначаную дагэтуль гміннаю сацыяльную дапамогу для шматлікіх сем'яў, дык акажацца, што атрыманыя грошы змогуць забяспечыць два працоўныя штаты з зарплатай у сярэднім больш двух тысяч злотых. І не трэба будзе працаваць. Ці гэта не дабрадзейнасць закону Права і справядлівасці?...

**Уладзімір СІДАРУК**

## Суд усявышні

Акружны суд у Беластоку мае вялікую моц. Ён можа вярнуць нас у даўнія мінулыя гады. Вось прыклад гэтаму:

„(...) Sąd wzywa Panią do stawienia się w dniu 1 stycznia 1900 r. o godz. 00.00 w celu poddania się badaniu lekarskiemu. (...)

Z upoważnienia
Kierownika Sekretariatu
St. Sekr. Sądowy Elżbieta Tołoczko

**(яц)**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# зорка
для дзяцей і моладзі

# „Роднае слова”
## — конкурс развіцця творчай індывідуальнасці


Дзеткі з беларускага садка ў Беластоку

Фота Уля ШУБЗДА

Штогод вясною вучні, якія вывучаюць беларускую мову, ведаюць, што чакае іх дэкламатарскі конкурс. Вучні, ці гэта самастойна, ці з бацькамі або настаўнікамі, выбіраюць вершы, якія найбольш ім падыходзяць. Таму кожнае выступленне вельмі асабістае, індывідуальнае і заўсёды непаўторнае.

Кожны з нас, чытаючы верш, зразумее яго па-свойму. У залежнасці ад стаўлення да дадзенага зместу ці аўтара, паводле ўласных перакананняў. Па гэтай прычыне конкурс „Роднае слова” штогод непаўторны. Нават, калі дзеткі дэкламуюць той жа самы верш, слухач з цікавасцю глядзіць на абодвух выступальнікаў. Таму, што кожны з вучняў штосьці іншага знайшоў для сябе ў дадзеным творы. Можа гэта быць штосьці наватарскае, або менавіта дакладна тое, што меў на думцы сам аўтар.

Да падборкі вершаў дзеці таксама ставяцца неабыякава. Здараецца, што гэта настаўнік, ведаючы свайго вучня, знаходзіць яму найбольш адпаведны твор, які дазволіць паказаць самыя моцныя бакі дэкламатара. Але і ёсць такія асобы, якія маюць сваіх любімых аўтараў і самі выбіраюць той найцікавейшы верш. Пры нагодзе конкурсу „Роднае слова” можам пазнаць класіку беларускай паэзіі, вершы, вывучаючы іх на памяць. Апрача таго, на раённым конкурсе ў Беластоку было відаць, што вучні падтрымлівалі сябе ўзаемна. Неаднойчы ведалі вершык сваёй сяброўкі ці сябра, і калі той выступаў на сцэне, разам з ім паціхеньку паўтаралі словы за выступальнікам. Гэта сведчыць аб тым, што вучні падтрымліваюць сябе ўзаемна і вучацца не толькі беларускай паэзіі, але і сяброўству.

Жадаем поспехаў на цэнтральным аглядзе ў Бельску-Падляшскім!

**Уршуля ШУБЗДА**

*Міра ЛУКША*

## *Клён*

*Клёнік кучаравы,*
*віцязь закаханы!*
*Ненаглядны, бравы,*
*з лепшых адабраны.*
*Нацягну я струну*
*на клёна галіну,*
*каб не забываўся*
*на верну дзяўчыну.*
*Звянчалі здавён,*
*і разам спрадвеку*
*з калінаю клён*
*як двух чалавекаў.*
*Клёну кучараввага*
*без толку не зрубіш,*
*бо дарма душы*
*заклятай не згубіш.*
*Двухкрылку-насенне*
*пад парог закапалі,*
*каб дзеткі кляновы*
*хату зберагалі.*
*А над ложкам галінку*
*вешалі клянову,*
*каб моцы дадала,*
*яркасці любові.*
*Заірдзіцца лісце*
*восенню ізноў,*
*зернейкі з двухкрылкі*
*кормяць снегіроў.*
*Клён мой, цёплы дружа,*
*з сэрцам залатым,*
*сам мерзнеш у сцюжу,*
*у хату ж — не зайсці.*
*Пень твой абыму я,*
*прытулю шчаку.*
*Перарос мяне ты*
*на нашым вяку.*

# Прыручылі ручнік

Ручнік гэта не просты, аздобны кавалак тканіны. Для беларусаў ён неадлучны сімвал дарогі, з якім чалавек падарожнічае па зямлі ад народзінаў да смерці. На ручнік «прымалі» нованароджанае немаўлятка, на ручніку ставілі пад вянец маладажонаў, з ручнікам праводзілі ў апошні шлях...

Каб бліжэй пазнаёміцца з асаблівасцю ручніка, вучні беластоцкай Гімназіі № 7 паехалі 22 сакавіка г.г. у Бельск-Падляшскі, у музей. Да гэтага тага пра ручнік гаварылі на ўроках беларускай мовы. Непасрэдны кантакт падзейнічаў як інспірацыя. Гімназісты былі пад вялікім уражаннем узораў і арнаментаў, знайшлі сімвалы сонца, зямлі і кахання (апошні сімвал прадстаўлялі ў вобразе птушак).

Пасля гэтага ўзяліся за працу. Узоры з ручнікоў нашы сябры памясцілі на ільняных сумках. Модныя сумкі якраз спатрэбяцца на бягучы вясновы сезон.



# УВАГА КОНКУРС!

Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку” да 24 красавіка 2016 г., найлепш па электроннай пошце.
Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

## № 16-16

**Зайздросіць**
**кожная жывёла —**
**у яго моц**
**і веліч, павер.**
**Белавежскай пушчы**
**ён волат,**
**Рахманы, магутны**
**звер.**
**З...**

**(Ю. Свірка)**

## Загадкі з роднай хаткі

**Адказ на загадкі № 12-16: бусел. Узнагароды, кніжкі Сакрата Яновіча «Лістоўе», выйгралі Габрыся Крупіч з НШ свсв. Кірылы і Мяфодзія, Сара Скаўронская з ПШ № 4, Эва Анджэйчык з Нарвы, Карнелія Барэчка з Нараўкі. Віншуем!**

# Хачу пабачыць увесь свет!

**З Клаўдзіяй Сікорскай,** лаўрэаткай другога месца XVIII Агульнапольскага конкурсу беларускай паэзіі і прозы «Дэбют», вучаніцай гімназіі ў Міхалове, гутарыць **Ганна Кандрацюк.**

**Зорка:** — ***Клаўдзія, што Ты адчуваеш, „калі твае хвіліны ляцяць у далечыню"? Гэта здзяйсненне, ці пачуццё страты?***

**Клаўдзія Сікорская:** — Ведаеце, для мяне кожная хвіліна вельмі дарагая. Можна сказаць, што каштуе як золата. З кожнай хвілінай мы становімся старэйшымі, а сталы чалавек ужо шмат пабачыў і шмат перажыў, але, таксама, у яго жыцці былі і прыгоды, і новыя сустрэчы, і ён пазнаў шмат новага на гэтым свеце. Канешне, як амаль усе без выключэння, я сумую па дзяцінстве.


Фота Уля ШУБЗДА

**З.:** — ***А Ты сама, калі б была птушкай, куды б хацела паляцець? Якія Табе сняцца сны?***

**К.С.:** — Калі б я была птушкай, спачатку я паляцела б у Францыю, у горад закаханых, у Парыж. Я вельмі-вельмі даўно мару пабываць там, паглядзець Эйфелевую вежу, або вядомую на ўвесь свет кафедру Нотр-Дам дэ Пары. І гэта яшчэ не ўсё, я хачу пабачыць увесь свет.

**З.:** — ***Кім Ты хочаш стаць у жыцці?***

**К.С:** — Я хачу стаць урачом і даўно ўжо гэта вырашыла. Я вельмі люблю дапамагаць людзям і хацела б ратаваць жыццё. Буду вельмі ўдзячна лёсу, калі здзейсніцца маё самае шчырае жаданне — быць урачом.

**З.:** — ***Калі Ты пішаш вершы, ці адчуваеш, што Тваe думкі і мары хтосьці чуе і чытае „ўгары"?***

**К.С.:** — Я не ведаю, як гэта растлумачыць і можа вы мяне не зразумееце, але часамі прыходзіць такое жаданне пісаць, што я бяру асадку і запісваю ўсё, што прыходзіць у галаву. Радкі самі складаюцца ў строфы, а строфы — у вершы. Нават калі гэта адбываецца на занятках, ніщто не можа мяне стрымаць і, прызнаюся, заўвагі настаўнікаў не дзейнічаюць у гэтыя хвіліны. Усё адбываецца само па сабе. Думкі прыходзяць і адыходзяць. Я асабліва не шукаю тэм, натхненне заўсёды са мной побач, як быццам хтосьці ці штосьці кіруе маім настроем. Потым я чытаю гатовы верш, перачытваю некалькі разоў, паглядаю на картку, на якой толькі што накідвала радкі, а потым... мае думкі плывуць удалячынь,кудысьцідалёка-далёка.Растваpаюцца і знікаюць. І мне здаецца, што на другім канцы майго паэтычнага калідора мяне хтосьці слухае, разумее і мае вершы яму патрэбны.

**З.:** — ***Што для Цябе значыць беларуская мова? Гэта прадмет у школе ці нешта больш?***

**К.С.:** — На беларускай мове я пішу вершы і, нават, думаю на гэтай мове. Родная мова дае мне сілы, натхняе мяне. З ёй я ўстаю раніцай, у дзень я вывучаю яе як прадмет у школе, а вечарам, калі ў мяне ёсць крыху вольнага часу, я мару і лаўлю сябе на думцы, што раблю гэта па-беларуску. На занятках вельмі прыемна паразмаўляць, зрабіць практыкаванні, паспрачацца з дзяўчатамі, але, калі дадому вяртаешся (такая ж назва майго верша, які я буду чытаць на конкурсе ў Беластоку 4 красавіка), ідзеш павольна, разглядаеш палі, дрэвы, вёску, людзей і так на душы становіцца прыемна і цёпла. Ты ведаеш як называюцца па-беларуску кветкі, птушкі, з'явы прыроды, уся тая прыгажосць, якая мяне акаляе. І зноў нараджаецца верш ...

**З.:** — ***Якія зараз чытаеш кнігі?***

**К.С.:** — Я люблю пачытаць фантастыку і звычайныя кнігі пра жыццё.

**З.:** — ***Тады зычым, каб у звычайным жыцці было шмат фантастыкі.***

PS: *У правядзенні інтэрв'ю дапамаглі нам настаўніцы беларускай мовы ў Міхалове Люда Сегень і Эмілія Грыка. Шчырае дзякуй!*

**Клаўдзія СІКОРСКАЯ**
**Гімназія ў Міхалове**

## Крылатая свабода

Сяджу на лузе, прыемным і зялёным,
Пазіраю на неба і бачу,
Птушкі на небе
І гэтак сабе думаю…
Як гэта было б, калі б я птушкай стала?
Мець крылы і лётаць…
Адным абмежаваннем была б стома…
Але мая нага прыкаваная да зямлі
Нябачным ланцугом.
Маё месца тут, на зямлі,
Назаўсёды.
Такі мой лёс
Мне не прыкра.

## Радасць

Радасць — нібыта простае слова.
Але мае многа значэнняў:
Радасць гэта сонца, якое ўзыходзіць пасля буры,
Радасць гэта хвіліны, якія ляцяць у далечыню,
Радасць гэта прыгожы сонечны краявід,
Радасць гэта хада па мокрай траве з самага ранку,
Радасць гэта любімая песня па радыё,
Радасць гэта хвіліны, якія праводзім з сям'ёю,
Радасць гэта агляд зорак на небе,
Радасць гэта танец у час буры,
Радасць гэта анёлы на снезе,
Радасць гэта дарога ў лесе,
Радасць гэта ўсмешка ад першага снегу!

## Вершы Віктара Шведа



### Часткі свету

— Раскажы нам, Эльжбета,
Колькі маем частак свету?
Не стой і не маўчы,
А нам пералічы.

Пачула тут дзяўчына
Раптам сваю павіннасць,
Паспела яна адказаць:
— Адзін, два, тры,
чатыры, пяць.

### Ці адзіны татка?

— Ці гэта праўда, матка, —
Было пытанне сына, —
Што кожнае дзіцятка
Татульку мець павінна?

— Дык праўда, сынку, гэта.
— Чамуж у сям'і нашай
Маем мы трое дзетак
З адзіным таткам Сашам?

## Польска-беларуская крыжаванка № 16-16

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

***Адказ на крыжаванку №12:***

Шум, крок, вока, шакалад, падснежнік, мора, ува, пір, ар, стужка, Яна. Шал, порт, шар, вада, бокс, канапа, але, ажур, радня, Іван, кара.

Узнагароды, запісныя кніжкі, выйгралі ***Марына Місяюк, Ігнацы Дудар, Юлія Клімчук*** з НШ свсв. КіМ, ***Агнешка Петручук, Юля Шкляжэўская*** з Нарвы, ***Зузанна Мішчук, Наталля Ніканюк*** з Арэшкава, ***Бартак Ламашкевіч, Магдалена Стоцкая*** з Наравкі. Віншуем!

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Prom / Próg | | | | | | Miau | ... i | | Kosmita |
| Krąg / Książę | | Róg | | Jabłka | | | | | |
| | | | | Pióro | | | Łakomczuch | | |
| | | Wio | Wąż | | Ser | Las | | | |
| | | Wiosna | | | | | | | |
| | Jury | | | | | Media | | | |
| | | Żarna | | | | | | | |

# XVI Сусветны дзень паэзіі ЮНЕСКА
# Калі б не паэты...

У Варшаве, між іншым у Доме літаратуры імя Адама Міцкевіча, Доме Палёніі і школах адзначалася 16-годдзе Сусветнага дня паэзіі ЮНЕСКА ў Польшчы, арганізаванага ад пачатку рэдакцыяй часопіса «Poezja Dzisiaj» («Паэзія сёння»). Ад 2001 года — гэта адна з найбольшых і найбольш прэстыжных літаратурных імпрэз у свеце. Іх дэвізам з'яўляецца распаўсюджванне польскай паэзіі ў свеце і сусветнай у Польшчы, між іншым, шляхам прысуджэння літаратурных узнагарод «нестандартным паэтам» у выглядзе тамоў іх вершаў на польскай і англійскай мовах, узнагарод для перакладчыкаў. Адны́мі з першых лаўрэатаў узнагароды ЮНЕСКА былі кс. Ян Твардоўскі і Эрнест Брыль. Запрашаюцца на мерапрыемствы аўтары з Еўропы і Азіі, выдаюцца іх кнігі, а пасля выдаюцца тутэйшыя аўтары на іншых мовах амаль з усяго свету. «Паэзія сёння» выдала, між іншым, кнігу перакладаў беларускіх аўтараў «Wiatr od Niemna» — пераклады на польскую мову беларускіх аўтараў пачынаючы ад XIX стагоддзя да наймалодшага пакалення і «Размовы з паэзіяй» — вершы трынаццаці сучасных польскіх паэтаў (у супрацоўніцтве з Домам-Музеем Адама Міцкевіча ў Навагрудку), сярод якіх былі Ян Леанчук і Міра Лукша з Беластока і Адам Сяменчык з Гарадка. У часопісе «Паэзія сёння» друкаваліся пераклады твораў, між іншым, Віктара Шведа, Міхася Андрасюка, Лідзіі Маліноўскай, Яна Чыквіна, Міры Лукшы, Віктара Стахвюка і паэтаў з Беларусі. Летась прэзентавалі двухмоўную анталогію «Масты» 11 польскіх паэтаў і 10 з Санкт-Пецярбурга, у перакладзе, між іншым, Міры Лукшы.

— Імпрэзу, прысвечаную Сусветнаму дню паэзіі ЮНЕСКА пракламавалі ў Парыжы ў 1999 годзе, — расказвае Аляксандр Наўроцкі, галоўны рухавік імпрэзы — паэт, эсэіст, перакладчык, галоўны рэдактар часопіса «Poezja Dzisiaj». — Для таго, каб Слова стала шляхам да чалавека. Не дзелавое, чыноўніцкае, з інструкцыяй, загадамі, толькі тое нам найбліжэйшае, якога кожны чакае і ахвотна яго прымае.

Аляксандр Наўроцкі (1940 г. нар.) — выпускнік аддзяленняў польскай і венгерскай філалогій і этнаграфіі Варшаўскага ўніверсітэта. Удасканальваў веды за мяжой: у Венгрыі і Румыніі. Наведваў лекцыі па філасофіі Лешка Калакоўскага. Першым у свеце абараніў магістэрскую працу аб паэзіі Чэслава Мілаша (1966). Уласны яго паэтычны дэбют адбыўся ў 1965 годзе ў тыднёвіку «Kultura» ў Станіслава Граховяка, якога называлі князем паэтаў. З 1992 года з'яўляецца выдаўцом (уласнае кніжнае выдавецтва «IBiS»), а з 1998 г. — галоўным рэдактарам часопіса «Poezja Dzisiaj». Выдае, галоўным чынам, сучасную літаратуру, польскую і замежную; у тым ліку былі выдадзены анталогіі грэцкай, іспанскай, венгерскай, фінскай, рускай, украінскай паэзіі. Ён таксама рэдактар-укладальнік і выдавец трохтомнага зборy паэзіі «Польская паэзія: анталогія тысячагоддзя» (275 паэтаў: ад «Багародзіцы» да нашых дзён, 1800 стар.), сурэдактар двухмоўнай анталогіі польскай паэзіі, выдадзенай у Расіі ў серыі «Из века в век», якая ўключае паэтычныя анталогіі 14 славянскіх моў. З 2001 года А. Наўроцкі з'яўляецца арганізатарам Міжнародных дзён паэзіі пад патранатам ЮНЕСКА, на якіх выдатным польскім паэтам уручаецца ўзнагарода «Лаўры ЮНЕСКА», а замежным — прэмія часопіса «Паэзія сёння» за пераклады польскай паэзіі на іншыя мовы. Гэты паэтычны марафон доўжыцца сто дзён — пачынаецца ў Варшаве, затым праходзіць па ўсёй краіне, канчаючыся ў Вільні. З 2008 года арганізоўвае Фестывалі славянскай паэзіі.

— Сусветны дзень паэзіі, мерапрыемства ў Польшчы і ў свеце найбольш вядомае, арганізаванае без ніякіх дзяржаўных датацый, на які прыязджаюць выдатныя творцы з усяго свету. За гэтыя шаснаццаць гадоў выпрамавалі мы шмат польскіх паэтаў у Польшчы і за мяжой, давялі да тлумачэння і выдання іх кніг у розных

Фота Мажэны Мацкойць


■ Выступаюць з паэтычным словам Ліза Врахопулю, Павел Крупка, Міра Лукша і Аляксандр Наўроцкі

краінах свету, — расказвае Аляксандр Наўроцкі. — Сёлета падрыхтавалі мы некалькі паэтычных публікацый — анталогію польскай паэзіі па-грэцку і грэцкай — па-польску, том грэцкага паэта папольску, том маіх перакладаў з заходніх моў, том вершаў па-польску і па-англійску сёлетняму лаўрэату Сусветнага дня паэзіі (Мілашу Камілю Манастэрскаму). А робіць гэта перш за ўсё двое людзей, без фінансавай падтрымкі з боку дзяржавы — я і Барбара Юркоўская, мая жонка, незвычайная жанчына і знакамітая паэтка. Сёлета запрасілі мы паэтаў з Літвы, Беларусі, Расіі, Малдовы, Румыніі, Балгарыі, Грэцыі, Македоніі, Сербіі, Венгрыі, Славакіі, з Парыжа і Лондана. Не робім паэтычных «згонак». Апрача Варшавы імпрэзы адбыліся м.інш. у Жырардаве, Пяставе, Яблонне, Ламянках, Сташаве. Пасля ў Вільні, Разані і ў Яснай Паляне. Пад канец мая імпрэза завершыцца ў Афінах прэзентацыяй польскай паэзіі па-грэцку. Сёлета выдалі мы для гэтай нагоды дзве анталогіі: «Сучасная сербская паэзія» і «Сучасная грэцкая паэзія». Сёлета спецыяльнымі гасцямі з'яўляюцца паэты грэцкія і паэты паграніччa — з украінска-румынскай Букавіны. У томе польска-грэцкіх «Мастоў» таксама ёсць паэты розных пакаленняў, рэгіёнаў, таксама з паграніччаў, творцы ў рознай мастацкай матэрыі. Пераклаў паэтаў з Польшчы на грэцкую мову і грэкаў на польскую Павел Крупка — чыноўнік з Міністэрства замежных спраў РП, славіст, доктар Афінскага ўніверсітэта, бард і спартсмен. Апрача паэтаў з Польшчы, выступілі замежныя — Ліза Врахопулю — паэтэса, эсэістка і тэатральная рэжысёрка з Салонік, Сакрацiс Меліcаратос — паэт з Этоліі, афінянін, па прафесіі інжынер, аўтар паэтычных кампазіцый, Дзімітрыс Пісцікос — юрыст, пісьменнік і драматург з Этоліі, Рэната Цыган з Лондана — паэтэса і фатограф, Вольга Чэхава з Расіі — паэтэса, эсэістка і перакладчыца, сербка Даніца Дана Нодзіч з Парыжа, Пэтэр Гэрыш з Нямеччыны — паэт, эсэіст і перакладчык, з Беларусі — паэтэса, журналістка і аніматарка літаратурнага жыцця Люба Красеўская з Брэста, Мажэна Мацкойць з Вільні, Дзёрдзі Мандзіч з Венгрыі — паэт, навуковец, знаўца рунічнага пісьма, са Славакіі — Ігар Валекі, з В'етнама — Лам Кфанг Мы — паэт і спявак, Міхай Прэпэліца — прадстаўнік Румыніі, Украіны і Расіі (намінаваны да Нобелеўскай прэміі) і Аляксандру Шэрбан — выдатны перакладчык з польскай мовы (атрымаў ён спецыяльную ўзнагароду за пераклады), серб Владан Стаменковіч — сябра Саюза пісьменнікаў Польшчы і Саюза пісьменнікаў Сербіі, Васіле Тарацену з Букавіны — паэт і навуковец, сябра міжнароднага Пэн-клуба і член Саюзаў пісьменнікаў Украіны, Румыніі і Малдовы. З Балгарыі прыбылі спецыяльныя госці Элка Няголава — паэтэса, галоўная рэдактарка часопіса «Знаці», старшыня Славянскай акадэміі літаратуры і мастацтва, арганізатарка Фестываляў славянскай паэзіі ды Лучазар Селяшкі — паэт, эсэіст, перакладчык... Аўтары пасля сустрэч паміж сабою рэалізуюць самастойныя праекты — напрыклад Лучазар Селяшкі і Міра Лукша выдалі ў Сафіі пераклад кнігі лонданца Аляксея Врубеля. У працоўнай частцы фестывалю дамовіліся аб выдаванні чарговых твораў аўтараў стваpаючых у Польшчы — за мяжой, а замежных аўтараў — у Польшчы (рыхтуецца такое выданне ў Брэсце) і сумеснай арганізацыі Сусветных дзён паэзіі ЮНЕСКА — напрыклад у Румыніі, Ірландыі, а таксама ў Разані і Яснай Паляне, месцах, звязаных з вядомымі рускімі паэтамі Сяргеем Ясеніным і Львом Талстым. Фестываль з'яўляецца выдатным месцам для знаёмства аўтараў, прадстаўлення сваіх дасягненняў і наладжання вельмі канкрэтных выдавецкіх, перакладчыцкіх і крытычных планаў. Не абмінаюцца таксама беларускія аўтары, у тым ліку і з Беласточчыны, а падтрымку ў арганізацыі мерапрыемстваў аказвае Культурны цэнтр Беларусі ў Варшаве.



**Тэкст і фота Міра ЛУКША**



# Каля Вулькі і Паўлінова

На чыгуначны прыпынак Суха-вольцы прабіраецца вясна. У яго наваколлі мультымедыйны антураж з прапановай для зроку, слыху і абаняння. Са зрудзелай прыроды прадвесня прабіваецца на сонечнае святло маладая сакавітая зелень. Ды і антрапагенны краявід таксама нясе навіны: бульдозер прачысціў дарогу ў Вульку-Выганоўскую, пераварочваючы самыя прыдарожныя маладнякі. Старэйшыя вербы ўпрыгожваюць краявід веерамі сваіх ветак, якія да сёлетняй праваслаўнай Вербніцы напэўна не стрымаюць сваіх аксамітных коцікаў, а лістоўе прыме матуральны від. Яшчэ не падняўся пах веснавой духмянасці, але праз прастору маладога навакольнага лесу прабіваецца пах каровінага гною, а гэта сведчыць пра недалёкую прысутнасць гаспадарання. Аднак лясная прырода не зважае на чалавечы абаняльны „сабатаж” і дае свой веснавы канцэрт сакавітай птушынай песні. У птушыных спевах адчуваецца цэлы эмацыянальны веер: тут і галасы трывогі, і заклапочанасці, і сакавітага аптымізму — як у оперы. Шчыруюць птушыныя вакалісты, бо ж прырода прадбачыла ім свае ўзнагароды за найпрыгажэйшыя спевы і танцы — як у народных казках, дзе пераможцы ўзнагароджваюцца вабнымі прынцэсамі...

Цераз лясную сцяну пранікае і глухі машынны гул. Неўзабаве выходжу на прастору поля з азімінымі ўсходамі і трактарнымі каляінамі па іх. Уводдалі прычэплены да трактара прыбор згортвае свае крылы, з якіх арашаліся пасевы нейкай агратэхнічнай вадкасцю. Яшчэ трыццаць гадоў таму на прасторы паміж чыгункай і Вулькай-Выганоўскай суцэльнага лесу не было — былі ўчасткі лесу сярод суцэльнага поля. З таго часу адбылася своеасаблівая ракіроўка і зараз патоп лесу залівае астраўкі раллі. Штораз менш залацістай афарбоўкі раслiннага насцілу зямлі, а штораз больш аднастайнайляснай зелені. Зямелька, якую пакаленнямі мясцовыя сяляне арашалі сваім потам, зараз аддае той пот тым насаджэнням, якія не патрабуюць штогадовага потавага падсілкавання, якое вызначала земляробчы рытм — пейзажная музыка запавольвае сваю дынаміку.

Каля вульчанскіх могілак сляды свежага пілавіння, а на саміх могілках свежыя сасновыя пянькі. А намагільнікі быццам людзі, іх кшталты абрабіў руплівы час. Бывае, што шкадуем тых інфармацый, якія забралі з сабою пакойнікі, што яны забралі моц цікавых сюжэтаў. Але ж што было б, калі б яны іх не забіралі? Мабыць сусветны інфармацыйны патоп. Яны, пакойнікі, адыходзячы ў лепшы свет, ачышчаюць нашу духовую прастору для новых інфармацыйных подзвігаў, для новых пакаленняў. Каб яны не загразлі ў інфармацыйнай дрыгве; кругаварот прыроды гэта ці не свайго роду духовая меліярацыя? Чысцілішча ад пладоў таго біблейскага Дрэва пазнання дабра і — асабліва — зла...

Крыжу далей, ужо накіроўваючыся ў вёску, заўважаю сіні крыж; кіруюся да яго. А там крынічка ахоўваемая бетоннымі кругамі і вонкавым ажурным металічным плотам на бетонным фундаменце. У агароджы сіні бетонны крыж з 1969 года ды стомлены гадамі драўляны крыж, абаперты на тую ж агароджу. Крыжы ахвяраваны „о здравие”. Побач няспешна, паміж вольхавых каранёў, працякае мелкая рачулка...

З-за хаты з салтысоўскай шыльдай выходзіць адносна малады мужчына; заводжу кароткую размову. На вульчанскіх палях буйнатаварнай гаспадаркай займаюцца два земляробы: адзін з іх недзе з-пад Лап, які гаспадарыць таксама на Парцаве; другі родам з недалёкіх Сакоў. Апрача іх мясцовыя сяляне яшчэ таксама абрабляюць свае спадчынныя ўчасткі. У Вульцы дзевятнаццаць хат. І неспадзявана аптымістычная інфармацыя: з Вулькі-Выганоўскай у арлянскія школы гімбус забірае ажно трынаццаць дзяцей; у дзвюх сем'ях па чацвёра іх...

Калі выконваю здымак вульчанскай царквы, жанчына сярэдняга ўзросту цікавіцца маім заняткам. Ну, думаю, жанчына цікавая свету і ў яе мабыць даведаюся, як называецца той ручаёк, побач якога і знаходзіцца згаданая крынічка. Але высвятляецца, што жанчына гэтага не ведае, тлумачыцца, што



Грабніца Шульцаў у Паўлінове



Крынічка каля Вулькі-Выганоўскай



Фрагмент намагільніка Анны Баброўскай

яна прыйшла ў Вульку замуж з Сабятына. Ну, такія статычныя інфармацыі, як назвы тапаграфічных аб'ектаў могуць тыповай статыстычнай жанчыны не цікавіць, затое яна добра арыентуецца ў дынамічных падзеях: хто, з кім, дзе і калі...

Мегафоны, цераз якія перадаецца багаслужба, вабяць мяне ў царкву; акурат свята Дабравешчання. Народу ў царкве недзе звыш пяцідзесяці душ, з выгляду ўсе пенсіянеры. У мірскім свеце рабочы дзень, таму няма прадстаўнікоў працоўнага пакалення. Няма ў царкве і хору, спявае псальміст.

На цвінтары стаіць радочак стэлаў-помнікаў і першым з іх з'яўляецца намагільнік Анны Баброўскай з роду Крупіцкіх, маці найбольш вядомага ўраджэнца Вулькі-Выганоўскай і вядучага пачынальніка вывучэння нашай гісторыі Міхала Баброўскага (1784-1848). Міхал Баброўскі быў адукаваным у Вільні вучоным-славістам, які займаўся даследаваннем найранейшых славянскіх рукапісаў ды спадчыны Францыска Скарыны. А ягоны братанак і вучань Павел Баброўскі (1832-1905) пакінуў па сабе багаты даведнік з усебаковым апісаннем Гродзенскай губерні XIX стагоддзя.

Насупраць царквы будынак былой школы, які старанна адрамантаваны ўласнікамі бельскай гандлёвай фірмы „Аргелан” — цяпер ён выглядае як даўні палац. З іншага боку вуліцы будынак былой крамы; былой, бо ўжо ён прыватны, абгароджаны ажурным бетонным плотам...

Кіруюся ў бок Паўлінова. Асфальтоўка перасякае прамалінейны раўчак, які раней быў тою рачулкай, што працякала бестурботна побач крынічкі з паўднёвага боку Вулькі-Выганоўскай і якой найменавання не ўдалося мне даведацца. Цяпер яе бестурботнасць скончылася і яна ўжо выконвае працу меліярацыйнага рупліўца ў строга вызначаным прамалінейным жолабе.

Перад Паўлiновам заўважаю нешта накшталт невялікага бетоннага маставога бар'ера. Толькі няма там ніякага вадаёма. На „бар'еры” адціснутая дата: 1938. Загадкавы аб'ект...

На адным з апошніх панадворкаў заўважаю пажылога мужчыну і падаюся да яго за інфармацыяй наконт таго „мастка”. І даведваюся, што гэта мела быць такая лавачка, з якой яе ўласнікі мелі насалоджвацца відам маёнткавага парку. У парку былі два ставы, па якіх плавала лодачка, была карусель, была гайданка. Уласнікамі маёнтка ў Паўлінове быў род Шульцаў. Адзін прадстаўнік гэтага роду быў інжынерам і ён будаваў адрэзак чыгункі паміж Гайнаўкай і Чаромхай. У міжваенны час ён атрымліваў пяцьсот злотаў пенсіі ў месяц, а за гэтыя грошы можна было купіць пяць кароў. І вось ён інвеставаў у той парк, ад якога сёння асталіся толькі кволыя сляды. Іншы быў выдатным лекарам са званнем прафесара. Завясцілі яны, каб пасля смерці на іх магілах паставіць адно бярозавыя крыжы.

Калі набліжалася апошняя вайна, у Шульцаў змабілізавалі коней. А яны, даведаўшыся па радыё, якія тут рыхтуюцца парадкі, рыхтаваліся выехаць з Паўлінова. У аднаго селяніна папрасіў пан каня, абяцаючы за яго сем соснаў са свайго лесу. Калі пасля вайны пан вярнуўся, ён тыя сем соснаў даў свайму крэдытору...

Маёнтак у Паўлінове быў заснаваны ў пачатку XIX стагоддзя, а стагоддзем пазней былі закладзены могілкі, на якіх была ўзведзена мураваная грабніца. У міжчасе ўзнікла і вёска... У грабніцы была пахавана жонка заснавальніка маёнтка Паўліна Шульц, у гонар якой была названа мясцовасць. Зараз могілкі выглядаюць так, быццам на іх здзейснілася евангельская Нагорная пропаведзь ці абяцанні левых палітыкаў: мужыцкія пакойнікі ляжаць пад шыкоўнымі каменнымі намагільнікамі, а панскія пакойнікі пад сціплымі бярозавымі крыжамі...

Паўлінова, а асабліва тамашнія вясковыя могілкі, распалажаны на „камчатцы” Арлянскай гміны. Захаванне помнікаў даўніны на тэрыторыі гміны сканцэнтраванае галоўным чынам на былой сінагозе ў гміннным цэнтры. Сціплая паўлiноўская грабніца, якая таксама можа разглядацца як элемент мясцовай спадчыны, не выклікае, здаецца, ніякага зацікаўлення і здадзеная на ласку законаў прыроды. А шкада, бо ж яна з'яўляецца і памяткай па родзе Шульцаў, якія пакінулі па сабе, здаецца, і добрую памяць. Здаецца мне таксама, што ў нашым народзе жыве тое „справядлівае” перакананне, што колішнія прыватныя аб'екты павінны абнаўляць толькі нейкія „бізнесмены”... Па якіх пасля могуць астацца толькі тленныя бярозавыя крыжы...

За Паўліновам працякае рэчка Нурэц. Яна там выконвае буйную меліярацыйную працу. І выглядае яна быццам узорная працоўная брыгада ці як ардэнаносны ваенны атрад на парадзе — выцягнутая яна ў прамую лінейку. А за гэтай рэчкай-канавай, ужо з боку Малочкаў, распалажана сярэдневяковае культавае — як лічаць археолагі — зямное збудаванне. Вось тыя археолагі здзіўляюцца толькі, чаму гэты аб'ект атрымаў у навакольным народзе найменаванне Лысай гары, калі гэтая „гара” ў пойме ракі і яе адносная вышыня не перавышае двух метраў. А ўзялася яна, тая назва, з таго, што на ёй, „гары”, сухім грунце не расла сакавітая трава — „гару” можна было назваць лысай... Ад свайго субяседніка ў Паўлінове даведаўся быў я, што людзі, якія збіралі ў пойме Нурца сена, выносілі яго для сушкі менавіта на тую „лысую гару”; памяць пра яе даўняе сакральнае прызначэнне ў народзе не захавалася. Але людзі называлі яе замчыскам...

Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

# Яўген Семянюк — краязнавец з Рыгораўцаў

**Шукае каранёў. Мае іх нават у сваім прозвішчы. Марк Карнілюк — заўзяты генеолаг-аматар, прапаведнік гісторыі ўсходнепадляшскіх вёсак, прапаведнік іх радаслоўя. Называе сябе праваката-рам замяшання. Справа тут у цыкле тэматычных сустрэч, ладжаных яго Падляшскім генеалагічным аб'яднаннем, прысвечаных канкрэтным падляшскім вёскам. Адбываюцца яны ў Беластоку, але спадар Карнілюк заўважае, што іх месца павінна быць у вясковых, парафіяльных памяшканнях, найлепш адразу пасля нядзельных багаслужбаў.**



■ Яўген Семянюк - першы злева

Слядоў мінулага шукае ў царкоўных і дзяржаўных архівах, а таксама ў прыватных кватэрах, а пасля ўсё гэта спалучае, прыдае канкрэтны сэнс. Верыць, што стары фотаздымак жыве толькі ў прысутнасці дакумента, які яго ідэнтыфікуе. Прыкмеціў, што старыя здымкі ў сямейных архівах у пераважнай большасці не падпісаны, ананімныя, значыць, як мяркуе, бязвартасныя.

Хоча, каб іншыя пайшлі яго следам.

— Я меў толькі адзін мамін фотаздымак, маленькі, мабыць, з нейкага пасведчання. Цяпер сабраў іх больш за сорак, — гаворыць Марк Карнілюк.

Спатыкаюцца ў Беластоку па вуліцы Свентаянскай 22 у старадаўняй камяніцы гарадской управы. Залай карыстаюцца бясплатна. Па серадах да канца бягучага года зала адведзена толькі для іх. Ладзяць, між іншым, індывідуальныя кансультацыі, на якія людзі прыносяць багатыя калекцыі старых дакументаў і фотаздымкаў.

Генеалагічныя сустрэчы з цыкла „Ці яшчэ помніш мяне — злоўленае аб'ектывам" арганізуюць, у асноўным, выхадцам з вёсак. Ёсць зацікаўленне. Прыходзяць усе — маладыя мамы з немаўлятамі на руках, прафесіянальна актыўныя мужчыны і пенсіянеры. Найстарэйшай удзельніцы сустрэч спадарыні Марыі з Давідавіч споўнілася 93 гады.

Разам з Маркам Карнілюкам у аб'яднанні дзейнічае таксама адстаўны архітэктар Яўген Семянюк. Менавіта ён узяў на сябе абавязак выступіць з дакладам на тэму праваслаўнай парафіі ў Вульцы-Выганоўскай. Адбылося гэта ў аўторак, 5 красавіка. Дакладчык — ураджэнец Рыгораўцаў Вульчанскай парафіі. Цяпер пражывае ў Беластоку. У генеалогію прывяла яго звычайная цікавасць. Нават наймацнейшы надмагільны камень пасля двух соцень гадоў правальваецца пад зямлю, а глыбока высечаныя на ім літары сціраюцца. Яўген спускаецца на самае дно той жа магілы, у глыбіню радаслоўя. Шмат матэрыялаў сабраў на працягу сваёй дзесяцігадовай генеалагічнай дзейнасці, шмат магіл расскрэціў. Ёсць ужо чым падзяліцца, разбудзіць уяўленне і зацікаўленне слухачоў. Як сам прызнаецца, пачатковай крыніцай інфармацыі былі сямейныя аповеды. Гэтых сямейнікаў-старажылаў няма ўжо ў жывых. Засталіся толькі архіўныя дакументы.

Яўген Семянюк вельмі абрадаваўся, але і расхваляваўся, убачыўшы сярод прысутных на аўторкавым мерапрыемстве аўтарытэт у галіне гісторыі — прафесара Алега Латышонка. Аказваецца, прафесар Латышонак — прыхільнік такога тыпу ініцыятыў.

У багатай прэзентацыі спадара Семенюка апынулася, між іншым, тэма рэпатрыяцыі 1946 года. Паводле яго рэпатрыяцыя аказалася больш вялікай стратай для Рыгораўцаў чым бежанства перыяду Першай сусветнай вайны. Найстарэйшыя жыхары




Ужо шмат гадоў, як жанры сатыры і гумару не надта праяўляюцца ў беларускай літаратуры. Прычын тут можа быць многа. Гэта і агульная нядатнасць беларусаў смяяцца з сябе, і мноства забароненых тэм, у першую чаргу палітычных і сацыяльна-эканамічных, і існуючае дагэтуль у значнай часткі беларускага насельніцтва неўсведамленне сябе беларускай нацыяй. Праўда, нягледзячы на гэтыя неспрыяльныя ўмовы, беларуская сатыра і беларускі гумар усё ж такі існуюць. Адным з увасабленняў такога хай сабе кволенькага існавання з'яўляецца сатырык і гумарыст Міхась Міранович, які пражывае ў Віцебску. Каб падрабязней пазнаёміцца з творчасцю літаратара, варта зазірнуць на яго сайт, што месціцца ў інтэрнэце па адрасе **http://miranovich.by**.

Агульная выява сайта Мірановіча выглядае адпаведна творчай накіраванасці яго ўладальніка. На стылізаваным пад дрэва, а дакладней пад ламінат, фоне размешчаны рэчы — скрэпкі, партрэт, гаршчок з кветкай, акуляры, адна з кніжак, аркушы з вершамі, аловак і асадка. Пасярэдзіне старонкі — вітанне да наведвальнікаў. „Шаноўны госць! Вы зайшлі на афіцыйны сайт Міхася Мірановіча. Шчыра вітаю Вас! Буду рады, калі адведванне яго выкліча ў Вас хаця б адну ўсмешку. Для таго, уласна, і пішу!" — напісаў літаратар яшчэ ў 2013 годзе. Ніжэй на сайце месціцца інфармацыя, што ў продажы з'явілася новая кніжка Мірановіча „Жартачкі", датаваная ліпенем таго ж года. З гэтага разумееш — сайт не абнаўляўся ўжо даволі даўно. Але нават гэтая акалічнасць не спыніць жадаючых прагледзець вэб-старонку аднаго з нешматлікіх беларускіх сатырыкаў і гумарыстаў. І для пачатку варта зазірнуць у рубрыку „Біяграфія", выйсце на якую, як і на ўсе астатнія, месціцца ўверсе цэлага выяўлення.

Біяграфічная старонка змяшчае даволі вялікі расповед аб жыцці і творчасці Міхася Мірановіча. Адтуль мы даведаемся, што нарадзіўся ён у родных для Васіля Быкава мясцінах, а менавіта ў вёсцы Старына на Ушаччыне 18 лютага 1948 года. Працаваў лабарантам, выкладчыкам, інжынерам-канструктарам, інспектарам дзяржнагляду за стандартамі і якасцю, начальнікам аддзела кадраў. А цяпер літаратар на пенсіі. Згодна з пададзенай на сайце інфармацыяй, найбольш вядомыя яго вершаваныя гумарыстычныя карацелькі-фрашкі. Піша таксама літаратурныя пародыі. Напісаў тры кніжкі для дзяцей. Перакладае з украінскай Паўла Глазавога, Астапа Вішню, Сцяпана Руданскага, Аляксея Каламійца, Віталя Івашчанку, з польскай — Станіслава Лема, Анатоля Пацямкоўскага, Веслава Брудзінскага, украінскі і польскі народны гумар. З 2005 года з'яўляецца сябрам Саюза беларускіх пісьменнікаў.

Непасрэдна з вершамі паэта можна пазнаёміцца ў рубрыцы „Міранізмы". Пэўна такім словам Міхась Міранович называе ўсе свае кароценькія творы. Вельмі прыемна бачыць, што ўмее гумарыст нават пакпіць з сабе падобных. „Ну, хто паэтаў/ Зразумее?/ У кожнага/ Ёсць свая ніша:/ Палова з іх/ Пісаць не ўмее,/ Другая ж частка іх — / Не піша", — ухмыляецца літаратар у вершы „Падзел сярод паэтаў".

Не цураецца Міранович і пародый на творы знакамітых майстроў пяра: „Трэба дома бываць/ Часцей,/ Трэба дома бываць/ Не госцем,/ А то вунь ужо/ Сын расце — / На мяне не падобны/ Штосьці...". Такія вершы месцяцца ў рубрыцы „Пароды".

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

## Дата з календара

Дата з календара
Дата з календара
Дата з календара
Дата з календара

Прэм'ер-міністр БНР з Кузніцы

# 125 гадоў з дня нараджэння Язэпа Варонкі



Вядомы беларускі грамадска-палітычны дзеяч, паэт і журналіст Язэп Варонка нарадзіўся 4 (17 паводле старога стылю) красавіка 1891 г. у Кузніцы на Беласточчыне. Факт канкрэтнага месца нараджэння быў устаноўлены беластоцкімі даследнікамі зусім нядаўна. Пра дзяцінства і ранняе юнацтва Варонкі амаль нічога невядома. Пасля Сакольшчыны яго чакаў далёкі расейскі Пецярбург. Там ён быў слухачом лекцый на юрыдычным факультэце ўніверсітэта. У 1914 г. быў выключаны за неаплату навучання. На гэты перыяд прыпадае супраца маладога Язэпа з пецярбургскімі газетамі і часопісамі. Пісаў ён тады па-руску пад псеўданімам Юрый Вегаў. Паводле ўспамінаў сучаснікаў Варонка быў вельмі энергічным і актыўным у розным сэнсе, а зароблены грошы траціў з лёгкасцю. Быў надзвычай вясёлым і кампанейскім чалавекам, натурай актыўнай і няўрымслівай.

У 1917 г. Язэп Варонка ўжо стаў сябрам ЦК Беларускай сацыялістычнай грамады. Прадстаўляў беларускія арганізацыі ў агульнарасейскіх палітычных структурах. Варонка адмоўна ацэньваў палітыку па нацыянальным пытанні расейскага Часовага ўрада, а пазней — і палітыку Савета народных камісараў бальшавікоў. Неўзабаве Варонка стаў камісарам юстыцыі і ўнутраных спраў Вялікай беларускай рады, а ў 1918 г. — старшынёй Народнага сакратарыята. Быў адным з лідараў і стваральнікаў Беларускай Народнай Рэспублікі. У гэты час рэдагаваў газету „Беларуская зямля", менскі часопіс „Варта", гарадзенскую газету „Беларускі народ". Варонка асуджаў палітыку Польшчы ў дачыненні да беларускіх земляў.

У 1918 г. Язэп Варонка пераехаў у Коўна. Стаў міністрам па справах беларусаў ва ўрадзе Літоўскай Рэспублікі. З вясны 1921 г. — старшыня беларускага Чырвонага крыжа. З восені — старшыня Беларускай грамады ў Коўне. Адначасна выдаваў і рэдагаваў беларускі „Часопіс" (ён выходзіў у 1919-1920 гг.), таксама рускамоўную газету „Вольная Літва" і дадатак да яе „Зеркало".

Язэп Варонка — аўтар брашур „Беларускае пытанне да моманту Версальскай мірнай канферэнцыі. Гісторыка-палітычны нарыс", „Беларускі рух ад 1917 да 1920 гг. Кароткі агляд". Абедзве былі выдадзены ў Коўне.

У 1923 г. Варонка эміграваў у ЗША, пасяліўся ў Чыкага. Але нацыянальную справу не пакінуў. Узначальваў Беларуска-амерыканскую асацыяцыю, уваходзіў у кіраўніцтва Беларуска-амерыканскай рады, выдаваў газету „Беларуская трыбуна", вёў беларускамоўныя і рускамоўныя праграмы на радыё.

Пра амерыканскі перыяд жыцця і дзейнасці Варонкі напісаў у сваёй кнізе „Беларусы ў ЗША" вядомы даследнік Вітаўт Кіпель: „Язэп Варонка быў выдатным пачынальнікам і кіраўніком беларускага руху ў Злучаных Штатах. Ён прыехаў у гэтую краіну з ініцыятывы Янкі Чарапука як прадстаўнік Рады БНР. Я. Варонка да свайго прыезду ў Злучаныя Штаты меў ужо значны досвед палітычнага кіраўніцтва, займаючы пэўны час сярод іншага пасаду прэм'ер-міністра БНР. Ён быў высокаадукаваным чалавекам. Ён адыграў значную ролю ў грамадскім і палітычным жыцці амерыканскіх беларусаў, а ягонае непахіснае жаданне заснаваць магутную беларускую арганізацыю заслугоўвае ўсялякае павагі...".

Памёр Язэп Варонка 4 чэрвеня 1952 г. у Чыкага. Лёс адвёў яму не так шмат — 61 год жыцця.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

помняць яшчэ амаль штодзённыя чыгуначныя транспарты цэлых сем'яў з наваколля Орлі і Боцькаў, едучых у Чаромху, а затым у Беларусь і Расію.

Дакладчык шмат месца прысвяціў гісторыі рыгораўскай чыгункі. Была яна часткай Брэсцка-Граеўскай лініі, якая спалучала Чорнае мора з Балтыкай і адзначалася выдатнай інфраструктурай. У дзевятнаццатым стагоддзі паўстаў у вёсцы цэлы чыгуначны пасёлак, вага, каменныя масты на рэчках і, канешне, мураваны будынак вакзала.

— Жаль, што сёння засталіся толькі пероны, дошка з надпісам і мегафон на слупе, — прызнаецца дакладчык.

Было і пра іншыя рыгораўскія адметнасці, у іх ліку стаўленне вяскоўцаў да імён і прозвішчаў. Праз доўгія стагоддзі прозвішчы не былі папулярнымі ў паўсядзённым жыцці сялян. У большасці карысталіся яны імёнамі. Прытым адно імя мела шэраг сваіх варыянтаў. Так, для прыкладу, Ян мог быць Ванькам, Ванюшам, Яськам, Янушам, Ваньком, Іванкам, Янцем, Янушыкам ці Іванчыкам.

З часткі даклада, звязанай з царкоўнай тэмай, напэўна варта ўспомніць святарскую сям'ю Баброўскіх. Карані гэтай шляхецкай сям'і выводзяцца з ваколіц Драгічына. Айцец Кірыла Баброўскі жыў у 1738-1825 гадах. Адукацыю пачынаў у Кляшчэлеўскай царкоўнай школе, затым паступіў у духоўную семінарыю ў Берастэчка. Студэнцкія гады правёў у Кіеве. Праславіўся як абаронца праваслаўя. У тастаменце запісаў 200 рублёў на рамонт царквы ў Вульцы-Выганоўскай. Не менш адукаваным быў яго народжаны ў Вульцы-Выганоўскай сын Міхаіл (1784-1848) — святар, прафесар. Быў ён выпускніком драгічынскай школы піяраў, гімназіі ў Беластоку, а таксама юрыдычнага і філасофскага факультэтаў Віленскага ўніверсітэта. Працаваў на Сарбоне, у вядомых універсітэтах Італіі і Нямеччыны, выкладаў у Вільні. Сябраваў з філаматамі і філарэтамі. Поспехам яго жыцця стала адкрыццё Супрасльскага кодэксу. Як і бацька, падтрымліваў пераход уніятаў у праваслаўе. Магіла выдатнага святара знаходзіцца пры царкве ў Шарашове Пружанскага раёна.

Даклад завяршыўся паказам здымкаў рыгораўскіх школьнікаў. Найстарэйшая фатаграфія паходзіла з 1949 года.

— Дарэчы, усе дзеці, якіх мы тут бачым, нарадзіліся ў часах Другой сусветнай вайны, — тлумачыць Яўген Семянюк.

Што цікава, аўтарам гэтага здымка з'яўляецца бацька спадара Яўгена.

**Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН**

# Уладзімір КАЗБЯРУК (1923-2016)



4 красавіка 2016 года пайшоў з жыцця літаратуразнавец Уладзімір Казбярук. Яму было 93 гады.

Уладзімір Казбярук нарадзіўся 29.08.1923 г. у вёсцы Бандары Міхалоўскай гміны Беластоцкага павета ў сялянскай сям'і. Па вайне сям'я рэпатрыявалася ў Беларусь.

Пасля заканчэння філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта ў 1949 годзе працаваў выкладчыкам беларускай мовы і літаратуры ў Любчанскай сярэдняй школе, а ў 1951-1952 гадах — выкладчыкам расейскай мовы і літаратуры Нягневіцкай сярэдняй школы Наваградскага раёна. Вучыўся ў аспірантуры пры Мінскім педагагічным інстытуце (1952-1955), працаваў выкладчыкам Полацкага педагагічнага інстытута. У 1959-1964 гг. — вучоны сакратар Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР, з 1964 г. — навуковы супрацоўнік гэтага інстытута. Кандыдат філалагічных навук. Сябра СП СССР з 1977 г.

У сваіх літаратурных даследаваннях Уладзімір Казбярук звяртаў увагу на творчасць паэтаў і пісьменнікаў — членаў Беларускага літаратурнага аб'яднання „Белавежа". Ён, між іншым, аўтар уступу да кніжкі *Літаратурная Беласточчына: вершы і апавяданні*, выдадзенай у Мінску ў 1973 годзе.

# ЗАПРАШЭННЕ



Аб'яднанне АБ-БА сардэчна запрашае на Дыскусійны клуб АБ-Бы

**“Пагаворым пра беластоцка-гарадзенскае суседства”**

і сустрэчу з грамадскім дзеячам, праваабаронцам і пісьменнікам з Гародні **Віктарам САЗОНАВЫМ** 15.04.2016 (пятніца) 17.00

На вечарыне прэзентацыя яго навейшай кнігі „Суседскія былі"

*Склеп з культурай Аб'яднання АБ-БА, вул.Чэнстахоўская 6а, Беласток.*

**Валянціна МЯДЗВЕДЗЬ**

# Ручаёк

Ручай, ручай, ручаёчак,
А ў вадзе плыве лісточак.
Плыве ён да дзяўчыны,
Каб чакала ля каліны.

У ручаёчак, у ручаёк
Мілы ўкінуў той лісток.
Любоў жэжка з ручайка,
Хоць халодная вада.

Каліна белым зацвіла,
Але дзеўка ўсё чакала,
Калі прыйдзе ён сюды,
Каб сустрэцца ля вады.

Ручай, ручай, ручаёк,
А на ручайку масток.
На масточку пад калінай
Хлопец цалуецца з дзяўчынай

У ручаёчак, у ручаёк
Мілы ўкінуў той лісток.
Любоў жэжка з ручайка,
Хоць халодная вада.

# 17.04 — 23.04

**(22.03. — 20.04.)** 16-18.04. можаш купіць трывалую, добрую рэч, якая будзе служыць табе доўгія гады. З 18.04. можаш быць прымушаны да чагосьці, да чаго не маеш ахвоты. Дбай аб сябе ў дарозе, бо цікуюць аварыі і кантузіі, але не панікуй — забяспечся пластырамі і перакісам вадароду. Еж вітаміны!

**(21.04. — 21.05.)** 17-22.04. твае заўвагі могуць не спадабацца кіраўніцтву. Пасля 20.04. пабачыш справы такімі, якімі яны ёсць. Прыкмеціш свае новыя магчымасці, здабудзеш каштоўныя інфармацыі, разбярэшся ў сітуацыі. 16-22.04. дагаворышся з усімі, нават з вечна наракаючымі цясцямі ці ўзбунтаванымі малалеткамі. Твае задумы правесці разам час сустрэнуцца з апрабацыяй. Умела адпачывай.

**(22.05. — 22.06.)** 16-20.04. умела адолееш кожную перашкоду, не бойся рызыкі. 16-18.04. пільна сачы за аб'явамі аб працы. У час кваліфікацыйных размоў стой на сваім і стаў свае ўмовы. Вельмі добра зробіць табе фізічны высілак.

**Рак (23.06. — 23.07.)** Дзейнічай і адчувай на ўсю катушку! Маеш шанц сваё жыццё паставіць на свае пуці. Чакаюць цябе відныя поспехі! Адкажы на просьбу дапамогі старэйшаму сваяку. Не дзямгай маладым «Я ў тваім узросце...». Ракі, якія шукаюць працу, няхай пільна наставяць вушы — прапанова можа прыйсці з нечаканага месца. Лепш не плануй вялікіх пакупак на 18.04., лёгка могуць цябе абмануць і звабіць хітрымі ільготамі.

**(24.07. — 23.08.)** Да 20.04. вялікая папулярнасць і прыхільнасць з усіх бакоў, паафармляй важныя справы. Карыстаешся спрыяннем многіх асоб. З 20.04. можа зашкодзіць табе благая дыета і лішак алкаголю; старайся захаваць памяркоўнасць. Пасля 20.04. будуць груваcціцца перашкоды; не закахайся цяпер, бо трапіш як куляй у плот! Але разлічвай на шчырую дапамогу сяброў. Лепш не пазычай іншым грошай. Не кідай піць прыпісаных табе лякарстваў.

**(24.08. — 23.09.)** 16-19.04. ідзеш як бура ў прафесіі — канкурэнцыя не дасць табе рады. Да 18.04. добра разглядайся за добрай працай. 16-19.04. можа прыйсці табе ў галаву выдатная ідэя, як здабыць фартуну, але прымі пад увагу і найгоршы сцэнарый; падстава — добры бізнес-план. Павер у свае магчымасці. Не бойся сюрпрызаў лёсу — канчаткова пойдуць табе для дабра. Ад 20.04. знойдзеш вартых даверу сяброў і супрацоўнікаў. У пачуццях дзейнічай асцярожна і тактычна.

**(24.09. — 23.10.)** 16-18.04. лёгка ў кантактах, высвятленне непаразуменняў, завяршэнне спрэчак. 17-22.04. вельмі пільнуйся, каб не наклікаць на сябе гневу шэфа. 20.04. не дай сябе справакаваць. З 19.04. (да 25.04.) будзь адкрыты на новыя, цікавыя прапановы. Не будзеш наракаць на пусты кашалёк, але не траць розуму пры пакупках.

**(24.10. — 22.11.)** 16-20.04. будзеш збіраць плён сваёй працы. Можаш пашукаць таксама іншай, добра платнай. Можаш здабыць грошы на рамонт ці пабудову дома, не праваронiш нейкіх схаваных коштаў. 16-21.04. шанцы на выйгрыш і немалы дадатковы заробак. 16-20.04. урэшце глянеш на спрэчкі ў пары без эмоцый. Цяпер можаш кончыць няўдалую сувязь, ды застацца ў някепскіх адносінах. Не прапускай самых розных мерапрыемстваў.

**(23.11. — 22.12.)** Грошы любяць цябе, ляжаць нават на вуліцы — зайграй у латарэю, разглянься за дадатковай працай. 16-18.04. можаш зрабіць знакаміты інтарэс. І добра напоўні лядоўню і падумай як хораша забавіць кампанію — будуць багата ісці да цябе госці. 16-21.04. можаш пазнаёміцца з асобай «і да танца, і да ружанца» — спачатку можа будзеш скептычны наконт гэтага знаёмства, але можа і лепшыя пачуцці, што развіваюцца памалу і нават прыкульгваючы.

**(23.12. — 20.01.)** 16-18.04. можаш раздабыць каштоўныя інфармацыі. Не хавайся па кутах, сустракайся з сябрамі. У пачуццях адплюшч вочы і чакай. 16-21.04. можа на цябе спасці каханне з першага пагляду! Дадавай жару ў любоў! Дбай вельмі аб свае косці, зрабі дыягназ.

**(21.01. — 19.02.)** З 17.04. не фарсіруйся на трэніроўках, пільнуйся на вуліцы. Настрой вельмі добры. Дзе паявішся, усюды будуць да цябе ўздыхаць. Таму бывай у людзях, не сядзі ў чаце. Маеш страву і для духу для сваіх сяброў. А на працы лепш май абмежаваны давер да супрацоўнікаў.

**(20.02. — 21.03.)** Папраўяцца адносіны з блізкімі. Удасца табе знайсці ключ для вырашэння тваіх праблем і пранікнуць чыюсь несумленную гульню. Будзеш ведаць, што зрабіць у гэтай сітуацыі. Ворагам пакажаш, дзе зімуюць ракі! З 22.04. (да 30.04.) пільнуйся, каб фліpт не быў палічаны за абяцанне чагосьці большага (навучыся гаварыць «не!») і не вер у чыесьці добрыя намеры.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# Адгаданка

1. расійскі порт над Фінскім залівам, 2. выспа з Джакартай, 3. невялікая членістаногая жывёліна атрада павукападобных у... металічных шчыпцах, 4. муж бабы, 5. семдзесят пяць тузінаў, 6. сямейнік гароху і фасолі, 7. смокча кроў, 8. рытуальная забарона, 9. вуглевадароднае паліва на... усходзе Гімалаяў, 10. татарская дзяржава, 11. група людзей, якая працуе ў адзін прамежак часу працягласцю каля траціны сутак, 12. фурманка, 13. шырокая дошка на ножках для сядзення, якая... кіпіць у вулкане, 14 вулічка, якою можна праехаць між паралельнымі вуліцамі.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская прымаўка гаворка.

| | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1 | 2 | 3 | | | | | | | | 4 | 5 | |
| | | | | | | | | | | | | | 6 | |
| 7 | 8 | | | | | 9 | | | | | | | | |
| | | | | | | 10 | | | | | | | | |
| | | | | | 11 | | | | 12 | 13 | 14 | | | |

**(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 13 нумара**

Гай, дзіра, дзядзіна, ля, Нігерыя, ніць, смык, цень.

Рашэнне: **Смерць і радзіны не глядзяць ніякай гадзіны**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага і **Казіміру Радошку** са Свебадзіцаў.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Мірaслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.

# У палескай глыбінцы (39)




У Высоцк ехала я з душой у пятках. Душэўны неспакой крышку лагодзіў веснавы дождж, які рытмічна бубніў аб дах маршруткі. Пакольки пра дождж маліліся ўсе палескія старажылкі, мне заставалася змірыцца з аўрай і падаваць выгляд, што цешуся разам з народам.

Ды і размовы сярод пасажыраў, падбадзёраных трасучай яздой і мілагучным перастукам дажджу, кружылі ля вадзяной стыхіі. Размова ішла ў напрамку зразумелым толькі і выключна на Палессі. У цэлым свеце людзі баяцца паводкі. А тут — наадварот, усе наракалі, што сёлета веснавыя разлівы былі недастаткова вялікімі. Успаміналі, як калісь Гарынь залівала навакольныя лугі і ніжнія раёны мястэчка. Тады Высоцк явіўся нібыта востраў сярод аграмаднага мора ды два-тры тыдні заставаўся адрэзаны ад свету. Уся камунікацыя, як тысячу гадоў назад, адбывалася па вадзяным шляху на лодках...

Я ехала на маршрутцы і глядзела праз акно на размытыя ў дажджы краявіды. І не да канца верыла ў рэальнасць свайго падарожжа, якое здзяйснялася найперш дзякуючы добрым людзям.

Менавіта, з'ездзіць у гэтае соннае і забытае гісторыяй яўрэйскае мястэчка над Гарыннню параіў мне айцец Паўло Дубянец з Марочнага.

— Вам мусова сустрэцца з Рыгорам Яцутам, — сцвердзіў аўтарытэтна святар. — Ён напісаў кніжку пра роднае сяло Залужжа. Там усё нашае Палессе!

Бацюшка сам пазваніў спадару Яцуту і дамовіў нас на сустрэчу. Маёй задачай было трапіць у Высоцк.

— А там усе яго ведаюць!

Не менш важную ролю ў гэтым падарожжы сыгралі жанчыны з адміністрацыі дубровіцкай гасцініцы «Дружба». Яны падрыхтавалі мне спісак маршрутак, на якіх можна дабрацца ў Высоцк. Дакладней, яны знайшлі адзіную маршрутку, якая ехала ў мястэчка і адпраўлялася з самой раніцы, да гэтага дажджлівай. Усё ж такі мне пашанцавала. Я памятала як складана было знайсці хоць бы які-небудзь інтэлектуальны кантакт на гэтым баку Палесся.

* * *

Мястэчка з першага кроку зачаравала мяне ў пераносным і дакладным сэнсе. Я села ў цэнтры і чакала, пакуль сустрэну жывую душу. Як з-пад зямлі першай з'явілася цётка з кошыкам. Яна, не даслухаўшы да канца маіх пытанняў, накіравала ў вулачку праз Гарынь. Я ішла дзіравай асфальтоўкай, абмінаючы калюгі. У паветры разносіўся пах квітнеючых сліў і груш. Здавалася, што гэты цэлы спакой і парадак былі накліканы шабашам. Так, мястэчка ўсё яшчэ дыхала жыдоўскай аўрай і памяццю. Мініяцюрныя мураванкі здаваліся някранутымі ад часоў айчыннай вайны, быццам далей пражывалі ў іх колішнія гаспадары. Памяць пра яўрэяў нашэптвалі старыя дрэвы і дождж. Замест змерзнуць, зрабілася мне горача. Я дайшла на канец вулачкі, каб там у дзеда з бабай, якія, нягледзячы на дождж, выседжвалі моўчкі на лавачцы, даведацца, што іду ў адваротным напрамку. Я вярнулася ў цэнтр. Там зноў падказалі дарогу. Пры нагодзе я сфатаграфавала туземцаў, якія на фурманцы ехалі садзіць *картоплю*. Гаспадар, каб атрымаўся роўны кадр, спыніў нават каня.

Далей я направілася ў жаданы бок і пайшла сярэдзінай асфальтоўкі праз мястэчка. Дзесьці ў палове дарогі нагнаў мяне маладзён на матацыкле:

— Вы да Рыгора Яцуты? — спытаў.

— Так, так.

— Вам трэба вярнуцца, — хлопец паказаў мне рукой дарогу.

Маё блуканне не было дарэмным. Цягам чарговых хвілін пра мой прыезд ведала ўжо палова Высоцка. Сам Рыгор Яцута выглядаў мяне ў брамцы музея. Што тут дадаць — мяне сустракаў чалавек які 25 гадоў быў галавой Высоцка. А зараз ён пенсіянер і вядзе краязнаўчы музей з непаўторнымі, каштоўнымі экспанатамі. Мяне найбольш захапілі саматканыя наміткі, якія патрапілі сюды з роднай хаты Рыгора Яцуты. І двухсотгадовая лодка-даўбёнка, якую знайшлі на дне Гарыні...

(працяг будзе)

Фота і тэкст Ганны КАНДРАЦЮК








# XIX
## Агульнапольскі конкурс беларускай паэзіі і прозы

**Рэдакцыя „Нівы" і Беларускі саюз Рэспублікі Польшча аб'яўляюць XIX Агульнапольскі конкурс беларускай паэзіі і прозы. У конкурсе будуць разглядацца працы грамадзян Польшчы на беларускай мове.**

**ПРЫНЦЫПЫ ЎДЗЕЛЬНІЦТВА**

**1.** Конкурс праводзіцца ў дзвюх узроставых групах:

— I група: дзеці і моладзь пачатковых школ і гімназій,

— II група: астатнія ўдзельнікі (выключна аўтары, якія не з'яўляюцца членамі літаратурных творчых саюзаў).

**2.** У рамках груп конкурс праводзіцца ў дзвюх катэгорыях: паэзіі і прозы.

**3.** Конкурсныя працы, набраныя на камп'ютары або разборліва рукапіс у двух экземплярах (паэтычныя творы — 3-5 вершаў, іншыя літаратурныя формы — аб'ёмам да 22 старонак стандартнага машынапісу) трэба падпісаць крыптанімам, пазначыць нумарам узроставай групы і пасласць на адрас: Redakcja „Niwy", ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok 2, skr. poczt. 84 з прыпіскай на канверце: XIX Ogólnopolski Konkurs Poezji i Prozy Białoruskiej.

**4.** Прозвішча, імя і дакладны адрас аўтара дасланых конкурсных прац трэба памясціць у асобным заклееным канверце, падпісаным звонку такім нумарам групы і крыптанімам, як і конкурсныя працы.

**5.** На конкурс трэба дасылаць творы, якія дагэтуль нідзе не друкаваліся і не ўзнагароджваліся на іншых конкурсах.

**6.** Арганізатары не вяртаюць дасланых твораў.

**ТЭРМІНЫ**

**1.** Тэрмін дасылання да 31 кастрычніка 2016 г. (вырашае дата паштовага штампа).

**2.** Вынікі конкурсу будуць аб'яўлены ў лістападзе 2016 г.

**3.** Уручэнне ўзнагарод адбудзецца на адмысловай сустрэчы. Аб тэрміне мерапрыемства лаўрэаты і астатнія ўдзельнікі конкурсу будуць паінфармаваны і запрошаны прыняць у ім удзел.

Конкурс праводзіцца дзякуючы фінансавай падтрымцы Міністра ўнутраных спраў і адміністрацыі.

ISSN 0546-1960